# ЗЬМЕСТ.



Заказ № 2102. У ліку 2.000 экз. Галоўлітбел № 1113.

1-ая друкарня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.

IV год выданьня Красавік 1928 г. № 4



## Веснавая кампанія па лесааднаўленьню і правядзеньню „Дню Лесу“.

У лясной гаспадарцы грунтоўнымі момантамі зьяўляюцца: 1) карыстаньне лесам ці высечка лесу і 2) яго аднаўленьне. Толькі ў тым выпадку, калі абедзьве гэтыя апэрацыі праводзяцца ў жыцьцё ў роўнай меры, гэта значыць, што лесу высякаецца ў год столькі сколькі ў ім прырастае драўніны, тады можна лічыць, што лясная гаспадарка вядзецца правільна.

Аднак падрахункі шэрагу гадоў з поўнай відавочнасьцю паказваюць, што пытаньню лесааднаўленьня і правядзеньню „Дню Лесу“ мы яшчэ мала аддаем увагі, ня гледзячы на ўсю паважнасьць гэтай работы. Грамадзкая ўвага да лясной гаспадаркі і да гэтага часу пакуль што застаецца аднабаковай, г. зн., яна сканцэнтравана выключна каля высечкі лесу і атрыманьня драўніны. Што-ж датычыцца лесааднаўленьня, то тут справа ідзе вельмі слаба, г. зн., грамадзкая ўвага амаль адсутнічае як з боку сельскага насельніцтва, так і з боку дзяржаўных устаноў і грамадзкіх арганізацый.

Такія адносіны да лесааднаўленьня і аховы лясных багацьцяў мы маем таму, што несьвядомае сялянства мае свой погляд на гэту справу— „хто ў лесе ня злодзей, той дома не гаспадар“. Сельсаветы, РВК'ы і інш. савецкія ўстановы на мясцох, як паказаў досьлед мінулых год, дапушчаюць, што лесааднаўленьне і перавыхаваньне мас павінны праводзіць толькі лясныя працаўнікі, што ў корані не правільна. Лясныя працаўнікі пры ўсім іх жаданьні ня могуць справіцца з такой вялікай паважнасьці працай без актыўнага ўдзелу ўсіх працоўных мас. Як можа захаваць лясны вартаўнік маладнякі ад зьнішчэньня скацінай ці разьвядзеньня агню ў лесе, ад якіх узьнікаюць пажары, якія прыносяць вялікую шкоду дзяржаве. Апрача гэтага ў нас яшчэ так мала сродкаў для таго, каб адразу аднавіць у лесе ўсё тое, што зьнішчана за час імпэрыялістычнай вайны, за кошт бюджэтных асыгнаваньняў.

У наступную вясну трэба скарыстаць увесь вопыт мінулых гадоў, падлічыць патрэбныя працы па лесааднаўленьню і правесьці гэту кампанію так, каб перавыхаваць сялян і навучыць іх шчадзіць лес.

Для больш пасьпяховага правядзеньня гэтай кампаніі, на наш погляд, трэба стварыць міжведамственныя камісіі ў цэнтры, акругах, раёнах і сельсаветах, у якія павінны ўвайсьці прадстаўнікі цэлага шэрагу савецкіх і грамадзкіх устаноў і ўсе кальтурныя сілы вёскі (аграном, настаўнік і інш.). Праца камісіі павінна складацца з двух грунтоўных частак: 1) вытворчай і 2) агітацыйна-прапагандысцкай.

Вытворчая частка працы павінна заключацца:

а) у падліку ўсіх незалясіўшыхся плошчаў у лясох дзяржаўнага і мясцовага значэньня;

б) у высьвятленьні колькі, дакладна, з незалясіўшыхся плошчаў можа быць адноўлена шляхам натуральным і колькі патрабуе штучнага лесааднаўленьня, гледзячы на тое, колькі адпушчана сродкаў па дзяржбюджэту, таксама падлічваючы грамадзкія сілы працоўных;

в) у праверцы па кожнаму лясьніцтву колькасьці і якасьці насеньня і пасадачнага матар'ялу;

г) у вызначэньні колькасьці падлягаючых закладцы гадавальнікаў у лясох дзяржаўнага і мясцовага значэньня;

д) у праверцы сваечасовасьці разьмеркаваньня сродкаў па лясьніцтвах і ці поўнасьцю яны адпушчаны для гэтай мэты па дзяржбюджэту;

е) у вызначэньні плошчы, на якой трэба падрыхтаваць глебы для штучнага лесааднаўленьня і ў нагляданьні за сваечасовасьцю выкананьня гэтай працы;

ж) у выяўленьні плошчы маладнякоў і высечак падлягаючых абгароджваньню ў мэтах захаваньня іх ад зьнішчэньня скацінай у час пашы ў лесе;

з) у падліку ўсіх плошчаў, падлягаючых ачыстцы пасьля рубкі ад заваленасьці ламаччом;

і) у высьвятленьні плошчаў заражаных ляснымі шкоднікамі і распрацоўцы мерапрыемстваў па барацьбе з імі ў лясох дзяржаўнага і мясцовага значэньня;

к) у распрацоўцы пляну барацьбы з ляснымі пажарамі (правядзеньне супроць-пажарных поласаў, па-будаваньні вышак і г. д.);

л) у высьвятленьні плошчаў падлягаючых здачы пад часовае сельска-гаспадарчае карыстаньне ў лясох дзяржаўнага і мясцовага значэньня і распрацоўцы пляну і парадку такой здачы;

м) у распрацоўцы крэдытнага пляну работ па абсадцы вуліц, дарог, закладцы паркаў у сёлах, мястэчках, гарадох, каля школ, чырвонаармейскіх казармаў і іншых грамадзкіх і дзяржаўных установаў;

н) у прызначэньні пад залясеньне плошчаў сялянскіх зямель, на якіх яно можа быць праведзена, г. зн. на тых, якія няпрыгодны для с.-г. карыстаньня і

о) у вызначэньні разьмеру работ па пескаўмацаваньню, шляхам шалюгаваньня і інш.

Усе вышэй пералічаныя мерапрыемствы па лесааднаўленьню вытворчага характару могуць быць хутка вырашаны, калі яны, па-першае, будуць дакладна перапрацаваны на мясцох і, па-другое, калі ва ўсёй гэтай працы прымуць актыўны ўдзел шырокія колы працоўных мас. У гэтых мэтах перад пачаткам працы трэба правесьці шырокую агітацыйна-прапагандыскую кампанію аб „Дню Лесу“, а іменна:

а) абгаварыць ў дзяржаўных і грамадзкіх установах, на сходах у вёсках, мястэчках і гарадох, у казармах Чырвонай Арміі, у школах, а таксама піянэрскіх, камсамольскіх і партыйных ячэйках—чарговыя пытаньні лясной гаспадаркі і

б) высьвятліць эканамічнае значэньне лесу і лясной гаспадаркі ў цэнтральным і мясцовым друку.

Толькі ў тым выпадку мы зможам хутчэй аднавіць у лесе тое, што гадамі зьнішчалася ў лесе ў часы імпэрыялістычнай вайны і Рэвалюцыі.

„Дзень Лесу“ трэба зробіць запраўдным рэвалюцыйным сьвятам працоўных мас. Лічым ня лішнім адзначыць, што „Дзень Лесу“ гэта не паўтарэньне палахлівых спробаў старых сьвятаў дрэвастану.

Да „Дню Лесу“ блізкі—гэроічныя суботнікі і нядзельнікі самых цяжкіх момантаў Рэвалюцыі, калі барацьба з разрухай і разбурэньнем народнай гаспадаркі патрабавала гігантскіх высілкаў сьвядомых мас. З іх нетраў вышлі масавыя формы „Дню Лесу“, яны-ж улажылі ў свой зьмест працы і барацьбу.

Будзем спадзявацца, што ў „Дзень Лесу“ ад краю да краю свабоднае Беларусі загрымяць вольныя сьпевы працоўных мас і загручаць сякеры і рыдлёўкі, выратоўваючы нашы лясы ад далейшага іх зьнішчэньня.

**В. Ткачоў.**

---

# За новы падвойны ўраджай.

Наша Савецкая Улада зьвяртае зараз выключную ўвагу на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. Ня будзем тут пералічваць усе тыя мерапрыемствы і грашовыя асыгнаваньні, якія праводзяцца ёю для хутчэйшага ўздыму с.-г. промысла. Мэта тут адна—*як найхутчэй узьняць, а то і падвоіць наш нізкі ўраджай ў самым шырокім разуменьні гэтага слова: на полі—зерня і бульбы, валакна, траў, у садзе—садавіны, у жывёлагадоўлі—малака, мяса, у рыбнай гаспадарцы—каштоўнае рыбы.*

Падвойны ўраджай зьявіцца новым і магутным крокам для ўздыму добрабыта і культуры працоўных, а таксама будзе і выяўленьнем росту нашай Соцыялістычнай Дзяржавы. Ідэю падвойнага ўраджаю трэба як найшырэй популярызаваць сярод сотняў і тысяч сялянскіх гаспадарак, калектываў і г. д. Кожны аграном-спэцыялісты, каапэратар, зямельны працаўнік і інш. павінны неяк асабліва аценіць і арганізаваць умовы сваёй працы і самую працу, каб заўсёды мець на ўвазе галоўную мэту—*падвойны ўраджай*. Нашы дасьледчыкі, эканамісты і наогул спэцыялістыя павінны вызначыць лепшыя падыходы да высокага ўраджаю.

Далей мы коратка пералічым некаторыя тэхнічныя фактары, як першыя шляхі, якія па нашай думцы могуць мець уплыў на павышэньне ўраджаю ў нашых умовах гаспадараваньня.

Першае слова аб ўгнаеньні поля. Тут успомнім старую даўно забытую формулу, што 50 проц. ураджаю залежаць ад угнаеньня, 20-30 проц. ад сэлекцыйнага насеньня і 25 проц. ад апрацоўкі глебы. З угнаеньняў трэба назваць мінэральныя парашкі і торп.

З мінулага году Саюзны Урад стаў праводзіць ідэю самага шырокага пашырэньня мінэральных угнаеньняў. У гэтым годзе на мінэральныя ўгнаеньні Дзяржава дакладвае некалькі мільёнаў руб., каб зьнізіць на іх цэны, ведаючы што прырост ураджаю акупіць гэтыя выдаткі. Сялянству трэба шырэй выкарыстоўваць мінэральныя парашкі і перш пад больш даходныя расьліны, як бульба, караньплоды, лён, травы.

Ня менш шырокая дарога перад торпам і балотам. Торп—лепшы подсьціл у хляве і матар‘ял для кампосту. Трэба толькі разварушыць гэта сьпячае багацьце. Торп можа ствараць нам самы высокі ўраджай.

Ня меншае значэньне маюць і асушаныя балоты, калі яны выраблены пад пахаць. Праф. В. Р. Вільямс лічыць поле з балота больш цэнным, чым украінскі чорназём. І праўда, самыя высокія ўраджаі ў Заходняй Эўропе мае Галяндыя, дзе большасьць балотнай глебы. Лепшае месца для бульбы, караньплодаў, капусты і траў—гэта асушанае і выробленае балота. Гэта-ж гаворыць нам і ўраджай Менскай Балотнай Станцыі.

Таксама ня трэба забываць і яшчэ аднэй драбніцы, а іменна: у глебе на карысьць чалавека працуе нязьлічаны лік мікробаў (бактэрый), якія, напрыклад, асяляючыся на карэньні бабовых расьлін, баруць з паветра азот і ім узбагачваюць глебу. Нармальная праца ўсіх гэтых карысных бактэрый у глебе можа быць толькі пры правільнай (культурнай) апрацоўцы глебы. На падставе гэтай думкі нямецкі праф. Гофман ў час вайны знайшоў спосаб павялічыць прырост цэннага рыбнага мяса ў сажалках. Ён угнойваў сажалкі мінэральнымі парашкамі—вапнай, калі, фосфарам, а дарагога азотнага ўгнаеньня (салетры) зусім ня клаў і вынікі былі добрыя, бо пры гэтых умовах пачыналі сваю працу тыя бактэрыі, якія баруць азот з паветра. Прырост рыбы павялічваўся на 100 проц, гэта значыць замест 5 пуд., з дзес. выходзіла 10 пуд. прыросту ў год. (Гэты сакрэт ён перадаў толькі ў Нямеччыне перад сьмерцю).

Далейшаю падставаю для павялічэньня ўраджаю трэба лічыць прымяненьне ўсіх тых спосабаў, якія паслабляюць уплыў на ўраджай шкодных фактараў (прычын). Такімі адмоўнымі прычынамі можна назваць грыбныя і энтомолёгічныя шкоднікі, якія нішчаць ўраджай. Гісторыя сельскай гаспадаркі ведае да 300 расьлін, якія даюць карысьць, а шкоднікаў на іх бывае да 600. Праф. А. А. Ячэўскі лічыць, што ў сярэднім СССР траціць штогодна ад грыбных хвароб 1/3 свайго ўраджаю або 30 проц. Мала бывае такіх год, калі гэты процант зьніжаецца а бываюць і такія гады, калі страты ураджаю ад грыбных хвароб бываюць на 50-60 проц. і гэта амаль ня прыкметна для гаспадара. Так, па даных таго-ж праф. А. А. Ячэўскага, Ленінградзкая, Маскоўская і Смаленская губ. на бульбе мела страту ад бульбянага грыбка (Phytophtora infestans) 45 проц. у сярэднім за 27 год і толькі за 6 год менш 30 проц.

Пры вывучэньні-ж грыбных хвароб і арганізацыі мер барацьбы можна іх шкодны ўплыў заметна зьменшыць для пладовых дрэў да 3-6 проц., бульбы і палявых расьлін да 2-3 проц.

Яшчэ прыклад. У Ленінградзкай губ. пры пасевах без пратручваньня насеньня трата ўраджаю ад сажы (цьвярд. галоўні) даходзіла да 26 проц., а ў 1926 г. пасьля пратручваньня было толькі 1,3 проц. У Курскай губ. да 1923 г. без пратручваньня было 30 проц., а з 1923 г. пасьля прымяненьня пратручваньня, ярына была пашкоджана сажаю на 1-4 проц. Гэтых прыкладаў даволі, каб сказаць, наколькі патрэбным зьяўляецца пратручваньне ўсяго насеньня ярыны, як, нагул патрэбна праца па вывучэньню і барацьбе з грыбнымі шкоднікамі расьлін. Ня менш патрэбна і ачыстка насеньня для барацьбы з сьметнякамі.

Урэшце застановімся на ролі машыны ў барацьбе за падвойны ўраджай. Машына дапамагае пашырыць пасяўную плошчу; машына дае лепшы выраб поля, сваечасовы пасеў і таксама сваечасовую прыборку ўраджю. Кожнаму вядома, што будзе, калі спазьніцца пасеяць або, калі спазьніцца сабраць з поля. У апошнім выпадку чвэрць а то і трэць ураджаю гіне, высыпаецца.

Без сартыроўкі не ачысьціць зерняў; бяз плуга і каня--ў час не пасееш. Без машыны ня хутка прыдзе шматпольле. Вядомы эканоміст праф. Макараў кажа, што вышыня ўраджаю па групах гаспадарак зьніжаецца так:.заможныя, серадdespite, беднякі; а вядома, што сярод беднякоў больш ўсяго без інвэнтара і коняй.

Вось чаму Савецкая Улада надае такое вялікае значэньне машыне ў сельскай гаспадарцы. Але кожная машына апраўдвае сябе толькі тады, калі яна мае сабе даволі працы, поўную нагрузку.

Адсюль зразумела, што машыны трэба набываць каляктыўна. Трактар мэліорацыйнага т-ва ці каляктыва павінен цягнуць ня толькі плуг і барану, а вазіць грузы, зімою малаціць, працаваць на маслабойным заводзе і г. д,

Не павінна быць ніводнага пасёлку, дзе ня было-б машыннага т-ва для сумеснага карыстаньня жняяркаю, малатарняю арфаю і г. д.

Шырэй дарогу машыне. Праз аб'яднаньне бядняцкіх гаспадарак, праз каляктывы да шырокай работы трактара.

Зараз, калі пачынае закладацца праца на новы ўраджай, не павінна быць ніводнага селяніна, які не падумаў-бы над тым, як яму падвоіць свой ураджай, Кожнаму трэба выкарыстаць усе сродкі, якія ён можа. Усё, што бачыў селянін лепшага ў мінулым годзе на с.-г. выстаўцы, ці ў свайго суседа селяніна—дасьледчыка, што чуў на с.-г. курсах ад агранома, ў с.-г. гуртку—ўсё ён павінен выкарыстаць для павялічэньня ўраджаю,

Барацьба за падвойны ўраджай—агульная і вельмі адказная справа. Усе вынікі навукі і практыкі, лепшая арганізацыя і тэхніка павінны быць прыцягнуты ў сельскую гаспадарку для хутчэйшага ўздыму ўраджаю, гэтага магутнага фактара ў савецкім будаўніцтве [1]).

**С. Тупяневіч.**



[1]) Пытаньні падвойнага ўраджаю могуць стаць тэмаю для самага шырокага абгаворваньня. (Рэд).




# Да „Дню Лесу“.

Усім вядома, якое паважнае значэньне мае лес у жыцьці чалавека і, асабліва, ў жыцьці селяніна; лес патрэбен: на будынкі, на ўсякія прылады, калёсы, сані, спраты, на апал, у лесе здабываецца смала, дзёгаць, шкіпінар, луб, лыка, вугаль, у лесе палююць, зьбіраюць грыбы, ягады, арэхі і г. д. і г. д. Разам з тым пры высечцы, распрацоўцы, вывазу і сплаву лесу насельніцтва мае вялікі заработак.

Апрача таго, лес затрымлівае лятучыя пяскі і не дае ім магчымасьці пашырацца і заносіць урадлівыя плошчы; лес добра ўплывае на клімат: дзе ёсьць лес, там няма вяліхіх сухменяў,—ён затрымлівае вецер і ўраганы і такім чынам клімат робіцца роўны, а гэта мае вялікае значэньне для сельскай гаспадаркі.

Вось чаму кожны сьвядомы грамадзянін ня толькі павінен ахоўваць лес, але-ж і ведаць, як яго гадаваць, узнаўляць і разводзіць, для якой мэты кожны год і праводзіцца „Дзень Лесу“.

У час „Дню Лесу“ з аднаго боку вытвараюцца розныя паказальныя лесакультурныя працы: па пасеву і пасадцы лесу, па закладцы лясных гадавальнікаў, па абчыстцы лесу, па догляду за дрэвастанамі і г. д. і з другога—чытаюцца даклады, лекцыі і вядуцца гутаркі аб тым, як трэба карыстацца лесам, як яго лепей ахоўваць, узнаўляць і разводзіць, і такім чынам практычна і тэорэтычна насельніцтва атрымлівае ўсебаковыя веды аб лесе.

Трэба яшчэ адзначыць, што „Дзень Лесу“ дае даволі добрыя вынікі ў сэнсе колькасьці выконваемых прац, а гэта прыносіць ня малую карысьць лясной гаспадарцы, так у 1927 годзе было зроблена:

1. Пасеву лесу на плошчы . . . . . 109 гэкт. (100 дз.)
2. Пасадкі „ „ . . . . . 285 „ (261 дз.)
3. Закладзена лясных гадавальнікаў на плошчы 12341 к-м. (2715 к.с.)
4. Закладка паркаў на плошчы . . . 44922 к-м. (98823 к-с.)
5. Падрыхтоўкі глебы пад пасеў и пасадку лесу на плошчы . . . . . . . . 106 гек. (974 дз.)
6. Абчышчана лесу на плошчы . . . 2991 „ (27374 дз.)
7. Прысад усьцяж вуліц і дарог на працягу . 136 кілм. (127 вёр.)
8. Пасаджана навокал сядзіб, дамоў і інш. 62170 дрэў.
і 9. Абгароджана культур і маладнякоў на . працягу . . . . . . . . 429 кілм. (402 вер).

Пры чым у 1198 пунктах былі праведзены лекцыі, гутаркі і даклады, удзельнікаў-жа ў працах і слухачоў было болей 85800 чалавек.

У бягучым годзе таксама будзе праводзіцца „Дзень Лесу“ і, зразумела, чым болей ў ім будзе ўдзельнікаў, тым больш ён дасьць вынікаў і тым болей будзе сьвядомых у лясной гаспадарцы асоб, што асабліва важна для тых грамадзян, у карыстаньне якіх перададзены лясы мясцовага значэньня.

Дык няхай-жа кожны грамадзянін і асабліва спагадлівая моладзь прыме актыўны ўдзел у правядзеньні „Дню Лесу“—у гэтым вельмі карысным лясным сьвяце.

**К. Іваноў.**

---

# Ад чаго узьнікаюць лясныя пажары і барацьба з імі.

Кожны год вясною і летам нашы лясы вельмі пашкоджваюцца пажарамі. Якую вялікую страту робяць яны лясной гаспадарцы, відаць ужо з таго, што ў мінулым 1927 годзе іх было 563 і імі зьнішчана 1207 гэктараў лесу (1104 дз.) каштоўнасьцю ў 31083 р., і гэта ня гледзячы на тое, што і вясна і лета былі дажджлівыя; у папярэднія-ж гады шкода ад лясных пажараў была яшчэ большая.

З якіх-жа прычын узьнікаюць лясныя пажары? Пры разглядзе гэтых прычын высьвятлілася, што першае месца ў гэтых адносінах займае неасьцярожнае і нядбайнае абыходжаньне з агнём, якое бывае:

па 1-ае: пры разьвядзеньні вогнішч пастухамі, зьбіральнікамі грыбоў і ягад, калі вогнішчы раскладаюцца ў лесе, ці каля самага лесу і пакідаюцца не патушанымі;

па 2-ое: пры неасьцярожным выпальваньні сухой травы, лядзін, а таксама пры неасьцярожнай абчыстцы пасек (дзялянак);

па 3-яе: пры курэньні, калі кідаюць у лесе на сухую траву, ці на іглы і гальлё недакуркі і запаленыя запалкі;

і па 4-ае: пры паляваньні, калі паляўнічыя ужываюць пыжы з пакулі, пянькі і ільну.

Апрача таго, бываюць выпадкі, калі лясныя пажары ўзьнікаюць ад іскраў цягнікоў, ад маланкі і ад падпальваньня, і хоць большаю часткаю прычыны ўзьніканьня лясных пажараў застаюцца нявысьветленымі, але-ж трэба ўсё-ж такі лічыць, што і апошнія зьяўляюцца вынікамі неасьцярожнасьці і нядбайнасьці. Вось чаму кожны сьвядомы грамадзянін павінен ня толькі сам быць вельмі асьцярожным з агнём у лесе, але і наглядаць за другімі грамадзянамі і асабліва за несьвядомымі яшчэ хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія пасьвяць жывёлу ў лесе, альбо зьбіраюць грыбы, ягады і арэхі.

Ува ўсякім выпадку, калі трапіцца ў лесе пажар, дык зразумела, што трэба прыкласьці ўсё стараньне, каб яго як мага хутчэй спыніць, чаму трэба ведаць, якія для гэтай мэты маюцца спосабы. Лясныя пажары бываюць трох сартоў: 1) надземны, альбо беглы, 2) верхавы альбо павальны і 3) падземны, альбо тарпяны. Кожны з гэтых лясных пажараў патрабуе і асаблівых спосабаў тушэньня.

*Надземным, альбо беглым пажарам* завецца той пажар, калі агонь бяжыць па зямлі, але не падымаецца па дрэвах уверх. У гэтым выпадку агонь зьнішчае на перад сухую апошняга году траву, апаўшае

лісьце, іглы, шышкі, гальлё, ламачча і іншы мёртвы пакроў глебы, а потым, калі ўзмацніцца, ён пераходзіць на падлесак і нават і на падрост. Калі ціха, дык беглы агонь ідзе у той бок, дзе больш для яго матар'ялу, але-ж пры ветры ён ідзе туды, куды яго гоніць вецер.

Надземны пажар, ня гледзячы на яго бегласьць, усё-ж такі робіць вялікую шкоду лесу. У навуцы моцна зацьверджана і даведзена, што мёртвы пакроў вельмі карысны лесу—ён захоўвае вільгаць, патрэбную для карэньняў, бароніць глебу ад хуткага награваньня і ахаладжваньня, а таксама і ад зьдзярненьня. Апрача таго, мёртвы пакроў, што мае амаль не галоўнае значэньне, паступова ўгнойвае глебу, між тым беглы агонь нішчыць яго, тагды, як ён вельмі патрэбен для добрага росту дрэў. Вось чаму, калі пройдзе хоць лёгкі беглы агонь, рост дрэў затрымліваецца надоўга, пры больш-жа моцным агні на дрэвах шкодзіцца кара, якая адшчапляецца ад дрэў і яны гінуць і ўсыхаюць. Асабліва моцна адбіваецца беглы агонь на елцы, карэньні якой распаўсюджваюцца ў зямлі ня глыбока і таму прыпякаюцца, чаму елка пасьля пажару гіне вельмі хутка.

Беглы пажар небясьпечны тым, што ён лёгка пераходзіць у павальны,—самы моцны і самы шкадлівы. Калі беглы пажар яшчэ ня вельмі вялікі і да яго можна падысьці, яго захлёстываюць галінамі з бярозы, асіны і іншых лісьцяных дрэў, а таксама закідваюць зямлёй і пяском. Лепей ўсяго паставіць народ у шэраг, каб агонь праз яго не прарываўся. Але-ж у вялікую сухавею, ці пры пажары ў густым падросьце, калі агонь моцна разгарыцца, гэты спосаб не гадзіцца, бо працаўнікам ад вялікага жару не магчыма падысьці блізка да агню, і тагды трэба зрабіць абаронную паласу. Гэту паласу робяць прыблізна у 20-40 мэтрах (10-20 саж.) ад агню з такім падлікам, каб пасьпець зрабіць яе да яго прыбліжэньня. Робіцца яна шырынёю мэтра ў $1^1/_2$ (2 арш.); пры чым з зямлі трэба зьняць лісьцё, іглы, гальлё, траву і г. д. да самай глебы. На працягу паласы становяць народ, які павінен галінамі тушыць агонь, калі ён да яе падойдзе. У гэтым выпадку трэба карыстацца дарогамі і прасекамі, якія зьяўляюцца гатовымі абароннымі палосамі.

*Верхавы ці павальны пажар* амаль што заўсёды пачынаецца з беглага. Часьцей усяго гэта бывае, калі ён дойдзе да маладнякоў ці да гэткіх дрэвастанаў, альбо дзе шмат хламу і мёртвага лесу, якія маюць галіны да самай зямлі. Тагды гарыць усё: гарыць мёртвае акрыцьцё глебы, гарыць падлесак, гальлё, гараць і самыя дрэвы. Агонь хутка перакідваецца з аднаго дрэва на другое, ляцяць з агнём галіны і галоўні, падымаецца шум і трэск і агонь разьліваецца як мора. Робіцца такі вялізны жар і дым, што нельга падступіць к пажару бліжэй 20—30 мэтраў (10—15 саж.). Чым гусьцей лес, тым мацней у ім павальны пажар, тым большую ён робіць шкоду і тым цяжэй з ім змагацца.

Існуе два спосабы тушэньня павальнага пажару. Пры першым спосабе робяць на перадзе пажару і з боку абаронныя прасекі шырынёю ня менш як метраў у 6 (каля 3 саж.) і абчышчаюць на іх зямлю таксама, як робяць абаронныя палосы пры тушэньні беглага пажару, а сьсечаныя дрэвы валяць верхавінай да агню і абчышчаюць іх ад галін, якія адцягаюць у бок пажару. Абаронную просеку трэба рабіць так, каб скончыць яе раней, чым падыйдзе да яе пажар; у гэтым выпадку таксама карыстаюцца дарогамі, квартальнымі просекамі і г. д.

Другі спосаб патрабуе вельмі вялікай асьцярогі, гэта спосаб пучэньня сустрэчнага агню. Адступіўшы ад пажару на даволі вялікую адлегласьць (ад 50 да 200 крокаў, у залежнасьці ад шыбкасьці руху пажару) робяць таксама прасеку і па яе граніцы з боку пажару складаюць з гаручага матар'ялу—галін, ламачча, сучча, лісьця і г. д., як мага большы вал, дзякуючы чаму зямля на прасечцы абчышчаецца. І вось, калі пажар падсйдзе гэтак блізка, што да яго пачне цягнуць паветра, вал адразу запальваюць у некалькіх мясцох, і тагды агонь ідзе ў бок пажару, а калі яны сустрэнуцца, наперад робіцца гураган агню, а потым пачынаецца згасаньне. Але-ж калі пажар скончыцца, усё-ж такі трэба некалькі дзён пільнаваць, каб вецер не раздмухаў зноў агню, і таму каля пажарышча трэба ставіць варту.



Лес раздзелены забароннай, пастаяннай прасекай.

*Падземны, альбо тарпяны пажар* бывае, калі гарыць глебавы пласт ці торп. Сухі торп гарыць вельмі добра. У гэтым выпадку трэба бараніцца ад таго, каб агонь не перайшоў на лес, а таксама каб выратаваць ад агню тарпяное балота. Для гэтага трэба абкапаць усё пажарышча равом да грунту—да пяску, гліны альбо да вільготнага торпу. Пры падземным пажары шкодзяцца карэньні дрэў, дрэвы хутка вянуць, гінуць і потым звальваюцца. Трэба адзначыць, што падземны пажар праходзіць іншы раз далёка наперад ад відочнага агню, чаму равы трэба капаць ня вельмі блізка ад агню і наогул наглядаць, каб агонь не прарваўся праз роў і не разгарэўся дзе-небудзь на новым месцы, чаму і тагды, калі ўсё пажарышча ўжо абкопана равом, каля яго таксама трэба ставіць варту, каб яна не давала магчымасьці агню прайсьці праз роў.

К. І.

# Палявая гаспадарка

## Уплыў гатунку бульбы на ўраджай.

Вядома, што павялічэньне ўраджаю шмат залежыць ад гатунку расьліны. Правільна выбраны гатунак дае прыбаўку, вялічыня якое аднак хістаецца ў залежнасьці ад прыродных умоў вырастаньня і таго ці іншага спосабу апрацоўкі. Гэта-ж адносіцца і да бульбы. Пры выбары гатунку бульбы трэба памятаць, што самы лепшы гатунак, пападаючы ў неадпаведныя для яе ўмовы, хутка зьмяняецца, а часам і выраджаецца. Каб не было гэтых выпадкаў, належыць на глебах цяжкіх, задзярнелых і вільготных высяваць больш устойлівыя гатункі, хоць яны і менш ураджайныя, напрыклад: „гранат“, „сьвітязь“, „заўсёды добры“ і інш., бо ў някультурных умовах высокасартавыя гатункі могуць з першага году пайсьці на выраджэньне і ў выніку даць меншы ўраджай. Па сваіх асаблівасьцях усе гатункі бульбы можна разьбіць на тры вялікія групы.

1. *Сталовыя гатункі*, бульбіны якіх павінны быць сярэдня-вялікія з далікатнаю і тонкаю скуркаю і ня глыбокімі вочкамі, пры варцы павінны хутка разварвацца і даваць рассыпчатую, мучністую масу, без прыўкусу і паху, пры чым гатункі гэтыя павінны добра захоўвацца аж да новага ўраджаю.

2. *Кармавыя гатункі*, якія павінны даваць найбольшы ўраджай з адзінкі плошчы і быць не запатрабальванымі да глебы.

3. *Завадзкія гатункі*, якія павінны мець параўнальна большы ўраджай пры вялікай крухмальнасьці бульбін.

Цьвёрдага падзелу паміж трымя галоўнымі групамі гатункаў аднак няма: часта адзін і тэй-жа гатунак зьяўляецца і сталовым і завадзкім, альбо кармавым і завадзкім; пры гэтым бываюць і такія гатункі, якія зьмяшчаюць у сабе ўсе здольныя якасьці але ў сярэдняй меры і тагды яны будуць называцца ўнівэрсальнымі. Ведаючы добра ўмовы свайго палетка, кожны гаспадар можа падабраць для пасеву такі гатунак бульбы, які адпавядае яго запатрабаваньням. Чыстагатунковага пасяўнога матар‘ялу трэба набываць хоць для малой плошчы пасеву і пасеў правесьці першы раз як пробны.

Дасьледчыя станцыі вядуць сортаспрабаваньне бульбы, у іх патрэбна даведацца, які сорт больш падыходзіць к мясцовым умовам. Па дадзеным Менскай Расьлінаводнай Дасьледчай Станцыі сярэдні ўраджай бульбы за 2 гады быў наступны: (Гл. табліцу на наступнай стар.)

Калі параўняць з гэтым ураджаем бульбы ўраджай на сялянскіх палёх у 1927 г., які вызначыўся ў сярэднім па БССР у 534 пуд. з дзесяціны, дык мы ўбачым, што ён зьяўляецца зьменшаным у паўтара-два разы, а ў некаторых выпадках і больш. Гэтае зьмяншэньне бяз‘-

умоўна трэба лічыць не чыстагатунковым пасяўным матэр'ялам і не культурным доглядам. У сельскіх мясцовасьцях чыстагатунковай бульбы мала дзе можна знайсьці; паказанае насеньня маецца толькі на дасьледчых станцыях і ў некаторых саўгасах, адкуль і можна яго купіць.

Ураджай бульбы на Менскай Расьлінаводнай Дасьледчай Станцыі
(Сярэдняе за 2 гады).

| №№ па чарзе | Назва груп | НАЗВА ГАТУНКАЎ | УРАДЖАЙ | | З ЯГО | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | З гэктара ў цэнтн. | З дзесяціны ў пудох | % дробных | % крухмала |
| 1 | Сталовыя | Эпікур | 170 | 1131 | 10,0 | 14,01 |
| 2 | | Раньняя ружовая | 135 | 898 | 19,2 | 14,68 |
| 3 | | Ружовы мілет | 198 | 1317 | 11,8 | 13,86 |
| 4 | | Юбэль | 219 | 1475 | 7,2 | 15,13 |
| 5 | | Мікадо | 214 | 1424 | 16,0 | 16,0 |
| 6 | | Скорасьпелая раньняя ружовая | 218 | 1444 | 12,9 | 14,32 |
| 7 | Кармовыя | Княжаская карона | 203 | 1350 | 12,5 | 14,72 |
| 8 | | Кругер | 235 | 1563 | 10,0 | 16,0 |
| 9 | | Заўсёды добры | 200 | 1330 | 32,3 | 12,8 |
| 10 | Завадзкія | Меркер | 211 | 1404 | 14,4 | 17,18 |
| 11 | | Вольтман | 198 | 1317 | 9,9 | 19,18 |
| 12 | | Сьвіцязь | 220 | 1463 | 14,3 | 17,2 |
| 13 | | Сілезія | 248 | 1650 | 20,2 | 17,98 |

А. Шэлегаў.

# Як садзіць бульбу.

Бульба вельмі каштоўная расьліна. Яна паляпшае якасьць глебы, пазбаўляе селяніна ад агульнага недароду пры неўраджаі збожжавых расьлін і, акрамя таго, з дзес. прыносіць у 2-2½ разы больш карыснай матэрыі, чым збожжа.

Але ў нас і да гэтага часу не навучыліся яе добра гадаваць, аб чым сьведчаць нашы вельмі нізкія ўраджаі ў параўнаньні з ўраджаямі эўрапейскіх краін. У Нямеччыне сярэднім лічыцца ўраджай у 900—1000 п. з дзес., а ў нас 400—500, у два разы меншы.

Не крануўшы ўсіх бакоў гадоўлі бульбы, трэба заўважыць, што ўраджай мажліва на шмат павысіць адной толькі правільнай яе пасадкаю.

Навукай і практыкай устаноўлены наступныя галоўныя правілы пасадкі бульбы.

Бульбіна павінна быць зьмешчана пры пасадцы ў глебу так, каб у гэтым месцы было досыць вільгаці, цяпла і паветра. Яна не павінна ляжаць на моцным як цэгліна грунце, а павінна мець пад сабой ня менш 2-2½ вярш. пульхнай глебы.

Спосабаў пасадкі бульбы ёсьць шмат, але лепшым будзе той, пры якім выконваюцца памянёныя правілы пасадкі. У нас на Беларусі найбольш ужываецца пасадка бульбы пад плуг, пры якой бульба кідаецца на цьвёрдае дно баразны. Пры гэтым спосабе пасадкі бульбіна ня мае пад сабою пульхнай глебы, а часта і здавальняючых умоў цяпла і паветра, што адмоўна адбіваецца на ўраджаі.

Для зьнішчэньня адзначаных недахопаў пры пасадцы бульбы пад плуг, трэба зьмяшчаць бульбу не на дно баразны, а ў бок пульхнай глебы. Але такая пасадка патрабуе акуратнасьці і шмат часу, чаму яна не заўсёды можа быць выканана.

Ёсьць другі спосаб пасадкі, пры якім глеба арэцца не адным толькі плугам, а зараз-жа за ім пускаецца глебапульхніцель, якім пульхніцца дно баразны на пажаданую глыбіню, без выварочваньня ніжніх пластоў на паверхню. Гэтакім глебапульхніцелем можа быць асыпнік бяз крыльляў, ці саха бяз адвальнай дошкі, а калі ні акучніка, ні сахі няма, дык можна вельмі лёгка яго зрабіць з старога плуга, адняўшы ад яго паліцу (адкідню).

Пры гэтакім спосабе не зьмяншаецца хуткасьць працы саджальшчыц; яны проста кідаюць бульбу на ўспульхненае дно баразны. Тут можна поўнасьцю рэгуляваць глыбіню пасадкі, захопліваючы глыбей ці мяльчэй пярэднім плугам.

Трэба заўважыць, што гэты спосаб без перашкод можна ўжываць ня толькі пры пасадцы бульбы бяз гною, але і пры унясеньні яго пры пасадцы, кідаючы перад пульхніцелем, калі гной дробны і пасьля яго, калі гной буйны—саломісты. У першым выпадку ўнясеньня гною ён добра перамешваецца з глебай, што вельмі пажадана для роўнамернага ўгнаеньня.

Скарыстаньне другога каня пры пасадцы для пульхненьня, палягчае працу першага, што важна пры слабасільных сялянскіх конях, бо тут плугам бярэцца таўшчыня слоя, якая патрэбна толькі для пакрыцьця бульбін і гною ў баразьне. Гэты спосаб ўжываўся мною на дасьледчым полі пры Чырвона-Бярэжскім с.-г. тэхнікуме 1926 г. і даў добрыя вынікі. Раю спрабаваць яго і ўсім гаспадаром, а тым болей, сялянам-дасьледчыкам.

Аграном **А. Караткевіч.**

---

# Садзеце бульбу цэлымі бульбінамі.

**Рэзаныя бульбіны ў некаторыя гады даюць да 20—40 проц. няўсхожых. Рэзаныя бульбіны спрыяюць пашырэньню хвароб бульбы.**

Адказаць на гэта пытаньне прыдзецца трохі далей, каб адказ быў больш зразумелым. Зараз-жа вельмі коратка азнаёмім нашых чытачоў з аднэй вельмі цікаваю групаю хвароб бульбы, пашырэньню якіх дапамагае рэзаньне насеньня. Да гэтай групы прылічваюць некалькі часткаю сходных хвароб. Называюць іх часьцей *хваробамі выраджджэньня бульбы.*

У апошнія 20—30 гадоў гэтымі хваробамі бульбы займаліся і займаюцца шмат дасьледчыкаў і вучоных, бо пытаньне мае вялікае эканамічнае значэньне з прычыны недабору ўраджаю на 30—40 проц., а то і больш.

Аднак група гэтых хвароб выраджджэньня бульбы яшчэ ня вывучана; яшчэ ня знойдзен той шкодны організм, які выклікае гэтыя хваробы. Вядома толькі, што гэтыя хваробы ліпучы і заўсёды пасадка бульбін з-пад хворых кустоў дае таксама заражаны ўраджай. Мала таго, сок ад хворых сьцяблоў, бульбін і лісьця пры пераносе яго на ранкі і надрэзы здаровых растучых сьцяблоў і бульбін передае заразу. Насеньне-ж бульбы, калі ёсьць ягадкі, бывае заўсёды здаровым.

Награваньне соку ад хворых расьлін да 60—75° С. мала аслабляе сілу заразы. Цяплыня-ж у 100° забівае яе. Атрутнымі для заразы зьяўляюцца раствор сулемы (0,1 проц.), формалін і інш.

*У чым выяўляецца хвароба на бульбе.* Ёсьць ня менш сямі розных хвароб, якія належаць да названай групы хвароб выраджджэньня бульбы і кожная з іх мае свае адзнакі. Праўда, не заўсёды можна спаткаць на адным кусьце бульбы толькі адзнакі аднэй якой-небудзь з гэтых хвароб. Але для практычных мэт селяніна больш цікавым будзе іх агульная характарыстыка, чым малапрыметныя асаблівасьці, якія могуць цікавіць дасьледчыка. З гэтай прычыны мы і будзем характарызаваць усю гэту групу хвароб бульбы ў агульных рысах.

Часта здараецца назіраць, што лісьце бульбы закручваюцца кверху ў трубку па даўжыні жылкі ліста. Ліст не такі ўжо зялёны, як трэба— і часта ломіцца. Крухмал з лісьця ў бульбіны пераходзіць дрэнна, чаму апошнія бываюць меншыя і не дасьпяваюць (*скручваньне лісьця*).

У другім выпадку лісьце бульбы бывае зморшчанае, кучаравае (асабліва маладое). Бакі і кончыкі лісьця заварочваюцца ўверх. Пажаўцеўшае лісьце часта звальваецца. Бульбін пад такім кустом бывае менш і меншай велічыны (*кучаравасьць лісьця*).

У трэцім выпадку на бульбінах кажура ў вочак як-бы надуваецца, далей лопаецца, вочкі адміраюць.

Далей ня будзем больш затрымоўвацца на апісаньні іншых хвароб, а зараз толькі назавем некаторыя з іх, як мазаіка, якая мае некалькі сваіх адзнак, напрыклад, даволі стракатае па афарбоўцы лісьце, празьмерна вялікія бульбіны завостраныя к аднаму ці к двум канцом.

Да хвароб выраджджэньня належыць і празьмернае павялічэньня ліку сьцяблоў ад аднэй пасеянай бульбіны (кудраш). Праф. А. А. Ячэўскі апісвае, што 1925 г. яму ўдалося спаткаць пяць кустоў бульбы, дзе ён назіраў такі лік сьцяблоў: 67, 73, 78, 82 і 85 (*ведзьміны мётлы*).

На гэту групу пералічаных тут хвароб трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо яны могуць вельмі шпарка пашырацца. Асабліва гэтыя хваробы пашыраны там, дзе высяваюцца блізка сарты бульбы, якія привезены з-за межаў, бо гэтыя хваробы там часта дасягаюць 100%. Сярод сялянскіх пасеваў яны звычайна пашыраны менш, але далей могуць пашырацца і хутчэй.

*Як перадаецца зараза.* Для ўсіх гэтых хвароб цяпер высьветлена, што галоўнымі разносчыкамі заразы зьяўляюцца тлі, якія летам жывуць часта на бульбе і, пералятаючы з хворых кустоў на здаровыя, пры сваіх укусах разносяць заразу. Падругое, у зямлі могуць тачыць бульбу некаторыя чэрві і вусені, і таксама перадаваць заразу. Разно-

сіць заразу і сам несьвядомы гаспадар, калі на бульбе практыкуецца абрываньне лапак бульбоўніка, а яшчэ больш, калі пры пасадцы практыкуюць рэзаць насеньне бульбы нажом. Тут ужо парэзаныя палавінкі ад хворых бульбін перамазваюць здаровыя і перадаюць заразу.

*Меры барацьбы.* Трэба вясьці барацьбу з тлямі, не абломваць лапак, садзіць бульбу цэлымі і здаровымі бульбінамі; на працягу ўсяго лета наглядаць за бацьвіньнем, ці не зьявіліся захварэўшыя кусты бульбы. Лепш усяго іх адразу-ж і вырываць; калі такіх кустоў многа і вырываць шкода, дык іх трэба зазначыць (абвязваньнем кусочкам лыка), каб ўвосень гэтыя кусты прыбраць асобна і не дапусьціць іх ўраджаю ў насенны матар'ял.

Зараз-жа асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць гаспадароў на абавязковую пасадку бульбы цэлымі бульбінамі. Насеньне пры гэтым пойдзе мала чаго больш, асабліва, калі садзіць вярш. на 8 у гранцы і вярш. на 12 гранка ад гранкі*).

Заўважана, што пры рэзаньні насеньня бульбы на шмат павялічваецца і процант няўсхожых бульбін. Пакажам тут некалькі лічбаў узятых з досьледаў на досьледчым вучастку Маскоўскай Стазра**).

| НАСЕНЬНЕ БУЛЬБЫ | На глiністай глебе | | На пескавой | |
|---|---|---|---|---|
| | Колькі няўсхожых бульбін (лік на дзял.) | У %% | Колькі няўсхожых бульбін (лік) | У %% |
| Цэлыя бульбіны . . . | 3,3 | 6,9 | 0,6 | 1,4 |
| Рэзаныя (сьвеж.) . . . | 9,3 | 19,4 | 3,6 | 7,6 |
| Рэзаныя і ляжалыя . . . | 27.8 | 58,1 | 20,9 | 43.7 |
| Рэзаныя, пасыпаныя попелам і ляжалыя . . . . . | 36,6 | 76,3 | 7,6 | 15,9 |

Як бачым, менш усяго няўсхожых даюць цэлыя бульбіны. Гэты спосаб пасадкі толькі і можна раіць. Бульбіны адбіраюцца сярэдняй велічыні прыблізна 8 штук на 1 фунт.

С. Т.

# Морква ці бурак.

Караньплоды даюць высокія ўраджаі і зьяўляюцца найлепшым кормам дзеля малочнае скаціны. Яшчэ да імпэрыялістычнай вайны я закладаў шмат паказальных вучасткаў з кармовымі буракамі. Але дзіўная рэч, ня гледзячы на ўгнаеньне і добрую апрацоўку зямлі, вынікі былі няважныя. Ураджай у лепшых выпадках быў трохі больш 2.000 пуд. з дзес., на значнай-жа частцы вучасткаў зусім няўдалы. Калі ўзяць для параўнаньня бульбу дык прыходзіцца траціць куды менш працы і клопату, а між тым карысьці бульба дае ня менш чым буракі.

*) Вельмі трэба раіць спосаб пасадкі бульбы, які апісаў І. Хлапіцкі („Плуг" № 1928 г., стар. 18),

**) Станцыі Аховы Расьлін. Предварительный отчет о работах за 1923-25 г.

## Вынікі досьледу кармовых морквы і буракоў у Любанскім р. 1927 г.

| Прозьвішча і імя селяніна, дзе быў вучастак | Вёска | Ураджай з разьліку на дзес. у пуд. Карэньне | Бацьвіньне |
|---|---|---|---|
| **Кармовая морква** (пескавыя глебы) | | | |
| 1. Мысьлівец Іван | Фёдароўка | 2019 | 525 |
| 2. Лысак Лукаш . | „ | 2177 | 583 |
| 3. Лысак Нічыпар | „ | 2514 | 714 |
| 4. Зіневіч Хвёдар | „ | 2880 | 846 |
| 5. Новасельскі Віталі . . . | „ | 3108 | 823 |
| 6. Хаўстовіч Т. . | „ | 3222 | 840 |
| 7. Захарчык Рыгор | Турок | 3276 | 504 |
| 8. Захарчык Павал | „ | 2457 | 682*) |
| 9. Захарчык Васіль | „ | 2597 | 1237 |
| Сярэдняе на вучастак . . | — | 2702 | 750 |
| (Супескавая і сугліністыя глебы) | | | |
| 10. Маруго Міхась | Слабодка | 6296 | 1400 |
| 11. Корбут Алесь . | Залужжа | 5464 | 976 |
| 12. Кунцэвіч Алесь | „ | 4600 | 670 |
| Сярэдняе на вучастак . . | — | 5453 | 1015 |
| **Кармовыя буракі** (пескавыя глебы) | | | |
| 13. Лагоўская Ганна | Фёдараўка | 1508 | 275 |
| 14. Захарчык Рыгор | Турок | 2359 | 327 |
| 15. Захарчык Павал | „ | 3132 | 625 |
| 16. Захарчык Васіль | „ | 2230 | 582 |
| 17. Захарчык Піліп | „ | 2651 | 442 |
| 18. Захарчык Мікалай. . . | „ | 2754 | 570 |
| Сярэдняе на вучастак . . | — | 2439 | 470 |
| (Супескавыя і сугліністыя глебы) | | | |
| 19. Забалоцкі с.-г. гурток . . | Забалаць | 3927 | 748 |
| 20. Закальнецкі с.-г. гурток . . | Закальнае | 584 | 205 |
| 21. Юшкаўскі с.-г. гурток . . | Юшкавічы | 2775 | 427 |
| 22. Юшкоўская ячэйка ЛКСМ | „ | 3200 | 437 |
| 23. Любанская ячэйка ЛКСМ | Любань | 2430 | 840 |
| 24. Міхневіч Сьцяпан. . . | Залужжа | 2730 | 370 |
| 25. Статкевіч Міхась | „ | 2730 | 340 |
| 26. Корбут Васіль . | „ | 6576 | 506**) |
| 27. Корбут Алесь . | „ | 4740 | 730 |
| 28. Корбут Хвёдар. | „ | 3720 | 437 |
| 29. Кунцэвіч Алесь | „ | 2880 | 560 |
| 30. Сеўрук Адам . | „ | 2760 | 460 |
| Сярэдняе на вучастак . . | — | 3254 | 505 |
| **Бульба** | | | |
| 31. Мысьлівец Сьцяпан . . | Фёдароўка | 1226 | — |
| **Карм. рэпа** | | | |
| 32. Захарчык Рыгор | Турок | 2527 | 842 |
| **Карм. бручка** | | | |
| 33. Міхневіч Сьцяпан. . . | Залужжа | 1150 | 340 |

*) Не сваечасова прарэджана.

**) На Дворышчы.

Спрабаваў я сеяць кармовую рэпу, але і з ёй здарылася амаль тое, што і з буракамі. І вось я рашыў, што на пескавых і супескавых беларускіх глебах лепш разводзіць кармовую моркву. Гэтае-ж сама казалі мне і сяляне. Урэшце, я стаў закладваць вучасткі з кармовай морквай. Ня гледзячы на тое, што пясчаная глеба была вельмі слаба ўгноена, вынікі я атрымаў здавольняючыя. Пасьля гэтага вопыту я пачаў закладаць шмат вучасткаў з кармовай морквай у розных мясцох Бабруйск. акр. Усе гэтыя досьледы давалі добрыя вынікі.



Кармовая морква.

З канца 1925 г. я працую ў Любанскім раёне. Тут я таксама раіў сялянам сеяць кармовую моркву. У 1926 г. залажыў з імі паказальныя вучасткі, але на жаль, здарылася так, што нам папалася дрэннае насеньне морквы і справа гэта ўперад не пасунулася. На другую вясну я павялічыў лік вучасткаў з кармовай морквай і посьпех быў поўны. На ўсіх вучастках ураджай быў добры. На пясчанай глебе, дзе буракі зусім прапалі, а бульба дала ўраджай меншы за 800 п., кармовая морква дала—3000 п. аднаго карэньня (з разьліку на дзес.), На супясковых і сугліністых глебах, дзе буракі далі 4.000 пудоў з дзес., морква дала невядомы дагэтуль ураджай у 6.000 пудоў з дзес. Нават сталовая морква Нанская дала ўраджай у 4600 пудоў.



Бурак арнім-крывенскі

У 1926 г. у часопісь „Плуг“ я ўжо зьмяшчаў свой артыкул аб культуры караньплодаў ды і наогул там часта сустракаюцца артыкулы аб іх культуры. З прычыны гэтага гаварыць аб спосабах разьвядзеньня морквы я ня буду, а пакажу толькі некаторыя даныя вучоту ўраджаю 1927 г. кармовай морквы і дзеля параўнаньня буракоў, рэпы, бручкі і інш. культур у Любанскім раёне.

Трэба адзначыць, што пры разьвядзеньні морквы трэба яе своечасова прапалоць і прарваць, бо бяз гэтага ніколі не прычакаеш добрых ураджаяў. Ураджай караньплодаў на вучастках, якія я закладаў толькі ў межах Бабруйскай акр. былі такія (гл. табл. папяр. стар.):

Такім чынам, сярэдні ўраджай кармовай морквы на пескавых глебах быў 2972 п., а буракоў 2439 п. На сугліністых глебах кармовая морква дала сярэдні ўраджай 5453 пуды, а кармовыя буракі—3254 п.

Аграном **Хаустовіч**.

---

*Лічбы ўраджаю кармовай морквы на супескавай і сугліністай глебах у сялян: Маругі Міхася—№ 10, Корбута Алеся—№ 11, Кунцэвіча Алеся—№ 12, (гл. папяр стар.) надта вялікія і наводзяць на думку, ці ня зроблена памылка пры вучоце, альбо пры пераліку ўраджаю на дзесяціну. Для выяўленьня правільнасьці іх пажадана, каб і ў гэтым годзе быў праведзены такі-ж досьлед у гэтых весках і, каб у дасьледзе ўзяло ўдзел больш сялян.* (**Рэдакцыя**).

# Як сеяць каноплі ў полі.

У нас на Беларусі вельмі мала зьвяртаюць увагі на каноплі, а між тым яны могуць даваць гаспадарцы прыбытак. Праўда, перашкодай гэтаму служыць і тое, што каноплі ў нас ня родзяць нідзе, як толькі на гародах, бо зямля наша абяднела праз трохпалёўкаў. Аднак, ня гледзячы на ўсё гэта, каноплі, як і збожжа, можна сеяць і ў полі. Пасеў канапель у полі павялічыць ураджай збожжа. Я, напрыклад, леташні год пасеяў у полі каноплі пасьля бульбы, добра ўгноіўшы зямлю. Па падліку, з дзес. вышла 60 п. канапель ды яшчэ 6 коп канапляный саломы на падсьціл жывёле. Сеяў я каноплі на зерня, а можна мець пудоў 5 і пянькі.

Каноплі добра ўдаюцца пры такім севазвароце:

1) Канапляны папар на валакно па гнаі; 2) азімая пшаніца; 3) каноплі на зярняты і 4) бульба. У канапляным папары каноплі прыбіраюцца яшчэ зялёнымі, пры красаваньні. Гною трэба класьці каля 2400 пуд. на дзес. Яго трэба заараць з восені пасьля пшаніцы ці пасьля бульбы.

Такое прыбіраньне канапель, калі яны яшчэ красуюць, вельмі карысна. Пянька выходзіць вельмі добрая, тонкая, далікатная.

Пры пасеве канапель на зярняты, насеньня патрэбна 2—3 пуды на дзес. Тады каноплі пускаюць галіны ад нізу да верху і даюць шмат зярнят.

Наадварот, пры пасеве канапель на пяньку, насеньня трэба 8— 9п. Гаспадару, які ўжо пачаў сеяць каноплі, лёгка прымеціць, што яны патрабуюць у 3—4 разы менш гною, чым збожжавыя расьліны. Цяпер перад гаспадаром паўстае пытаньне, як-жа ўвесьці 4-х палёвы севазварот, у якім добра родзяць каноплі і менш патрабуецца гною. Для гэтага я раіў бы ўзяць самы блізкі ад сялібы вучастак і разьбіць яго на 4 кавалкі. На гэтым вучастку пасеяць канюшыну, якая ўзбагаціць глебу, і затым ужо завесьці паказаны вышэй севазварот.

Апрача таго, можна ўвесьці каноплі і ў 3-х палёвы севазварот. Тады ён будзе выглядаць так: 1) віка з аўсом, 2) бульба альбо кармовыя буракі і 3) каноплі па гнаі. Для такога трохпольля, асабліва на беднай зямлі, трэба засеяць канюшыну і пасьля яе ўводзіць паказаны севазварот. Можна яшчэ ўвесьці пасеў канапель з канюшынаю. На люцэрнавай і канюшыннай аблогах каноплі таксама вельмі добра ўдаюцца, але такі пасеў патрабуе шмат гною.

На прэснай зямлі на новым месцы каноплі не дадуць добрага ўраджаю, нават калі палажыць і гной. Таксама дрэнна растуць каноплі на халодных глiністых, з блізкай грунтовай вадой, глебах і на цяністых мясцох.

(Віцебшчына). Сел. **С. Сялюкін.**

---

# Якую трэба сеяць канюшыну.

Калі мы глянем вясною на палоскі канюшыны, дык убачым гэткае зьявішча: адны з іх зялёныя, другія чорныя або з чорнымі плямамі. Увосень-жа яны былі альбо аднолькавы, альбо гэтыя што цяпер чорныя, выглядалі лепш за тыя што маюць вясною прыгожы зялёны выгляд. Справа гэта даўно вядома. Досьледамі ўстаноўлена, што скорасьпелыя канюшыны не зімастойкі і вельмі часта вымярзаюць.

Найбольш зімастойкімі зьяўляюцца канюшыны позьнясьпелыя. Неаднолькавасьць палосак вясною паказвае, што на чорнай была пасеяна скорасьпелая, а на зялёнай позьнясьпелая канюшына. Бываюць зімы, калі і скорасьпелыя канюшыны іх пераносяць лёгка, але гэтакія зімы бываюць у нас рэдка. Пра ўраджай вядома, што меншы ўраджай даюць скорасьпелыя, а большы позьнясьпелыя канюшыны. Бывае, што скорасьпелыя канюшыны даюць за два ўкосы па колькасьці ня меншы ўраджай, чым позьнія, але прымаючы пад увагу іх незімастойкасьць, няма ніякага сэнсу ставіць пад рыск і без таго невялікія пасевы канюшыны. Якое-б мы не ўзялі насеньне — скорасьпелай або позьнясьпелай канюшыны, усюды мы знойдзем мешаніну тых і другіх, таму, што канюшына ёсьць тыповы скрыжаванаапыліцель і калі сумежна сеюць скорасьпелую і позьнясьпелую канюшыны, дык у час красаваньня шмялі, якія апылкоўваюць канюшыну, пералятаючы з аднае паласы на другую, абавязкова зробяць мешаніну. Угледзеўшыся добра ў гэту мешаніну на другі год, мы знойдзем шмат кустоў неаднолькавых паміж сабою. Лісьце ў адных кустоў будзе з вялікімі малюнкамі, у іншых з невялікімі, альбо і зусім без малюнка. У адных сьцябло доўгае з вялікаю колькасьцю гальля, у іншых кароткае, з меншаю колькасьцю. Адны красуюць і пасьпяваюць у той час, калі іншыя толькі пачынаюць выкідваць галоўкі і г. д. Адным словам, перад намі будзе самая рознастайная мешаніна. Гэтая мешанка нашмат зьменшвае колькасьць і якасьць сена, таму, што скорасьпелыя формы адкрасуюць і агрубеюць, пакуль позьнясьпелыя дасягнуць гатоўнасьці ўкосу. У такім разе сена будзе грубое, мала каштоўнае і кепска паядаецца жывёлай.

Якім-жа умовам павінна адпавядаць канюшына, ад якой чакаць вялікага ўраджаю сена? 1) Перш за ўсё трэба, каб яна была зімастойкаю; 2) павінна быць з тонкім, але даволі пруткім, сьцяблом, каб пасеў не палёг; 3) быць добра аблісьцьвенаю; 4) мець простастаячую форму куста; 5) сьцябло доўгае, з вялікаю колькасьцю гальля.

Вось галоўныя пункты, якім павінна адпавядаць канюшына, ад якой можна атрымаць вялікую колькасьць і добрую якасьць сена. У гэтым напрамку працуюць усе сэлекцыйныя ўстановы, якія займаюцца вывядзеньнем новых ураджайных форм і сартоў. У гэтым напрамку вядзе сваю працу і Беларускае Аддзяленьне Усесаюзнага Інстытуту Прыкладной Батанікі і Н. К.

**Д. Мурашка.**

(Лошыца)

---

## Заўвага.

У нумары 3 „Плуга“ 1928 г. на старонцы 15 у першай табліцы прыбаўка ўраджаю па супясі ў графе „чысты пасеў сэрадэлі“ надрукована 36, а трэба 46 цэнтнераў. У абедзьвюх табліцах усе лічбы ў пудох памылковы, таму іх чытаць ня трэба. Для атрыманьня правільнай лічбы ў пудох, трэба цэнтнеры павялічыць на 6,1.




## Досьлед з ячменем*).

У саўхозе „Зазер'е“ у 1927 г. быў пастаўлен досьлед над ячменем 3-х наступных сартоў: 1) „Прынцэса“—2-х радовы сэлекцыйны, атрыманы ад НКЗБ у 1925 г.; 2) „Залаты“—2-х радовы сэлекцыйны, атрыманы ў 1927 г. ад Інстытуту Прыкладнае Батанікі і 3) мясцовы, які пастаянна сеяцца ў саўхозе.

Сеяўся ячмень 26-га мая раскідаючым сяўніком на вучастках па 55 кв. саж. па 6 клгр. кожнага сорту. Аналіз насеньня зроблен быў на Менскай дасьледчай станцыі. Вучасткі пад пасевам былі аднолькавыя; у папярэднім годзе тут расла бульба, пад якую быў у 1926 г. паложан гной з разьліку 1200 пуд. на дзес. Глеба—сярэдні суглінак. Усходы зьявіліся дружна, наперад „Прынцэса“ за ім мясцовы і потым „Залаты“. Мясцовы пачаў выкідваць мяцёлку 11-га ліпеня, а „Прынцэса“ і „Залаты“ разам—16-га ліпеня.

Пасьпеў і прыбраны мясцовы 29-га жніўня а „Прынцэса“ і „Залаты“ 10-га жніўня.

Вынікі:

| Назва сартоў | Ураджай з дзял. у клгр. | | | Ураджай з дзес. у пуд. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зярна | Саломы | Мякіны | Зярна | Саломы | Мякіны |
| „Прынцэса“ . . . | 33,5 | 34,0 | 8,25 | 89,2 | 99,6 | 21,9 |
| „Залаты“ . . . . | 31,75 | 29,0 | 7,25 | 84,6 | 77,2 | 19,2 |
| Мясцовы . . . . | 32,25 | 43,0 | 10,5 | 85,9 | 114,5 | 28,0 |

Пасеў на вялікіх плошчах даў у саўхозе наступны ўраджай з дзес.

„Прынцэса“ . . 85 п. 20 ф.

Мясцовы . . . 51 п. 5 ф.

Сорт „Прынцэса“ быў пасеян на 14,75 дзес. а мясцовы на 6 дзес.

**П. Буракоў.**

---

*) На просьбу тов. Воўка з Мсьціслаўшчыны, ў № 11 „Плуг“ за 1927 г.—адказаць праз „Плуг“ аб выніках досьледаў над 2-х радовым ячменем сорт „Залаты“, які чытачы „Плуга“ атрымлівалі праз Рэдакцыю для спрабаваньня і параўнаньня з іншымі сартамі.

# Аб гаспадарскіх памылках пры пасеве кораньплодаў.

Шмат сялян ужо добра ведаюць, якую карысьць прыносяць у гаспадарцы кораньплоды пры разьвіцьці жывёлагадоўлі, а таму і імкнуцца да іх пасеву. Але, нажаль, надта многа здараецца ў сялян памылак пры іх пасадцы, што і перашкаджае пашырэньню пасеўнай плошчы пад гэту расьліну. У мінулым годзе я рабіў розныя спосабы пасадкі кораньплодаў, а таксама назіраў за агульнай працаю акружаючага насельніцтва. З назіраньняў я ўбачыў, як у працы нашага селяніна праз тое, што няма належных ведаў, здараецца шмат памылак, а таму часта атрымліваюцца страты замест карысьці.

Першая памылка—возяць сьвежы, саломісты, грубы, не перапрэлы гной, даюць яму прасохнуць і заворваюць да 3-х вяршкоў. На лёгкай глебе ў сухое лета ад гэтага могуць быць вялікія страты. Трэба добра памятаць, што наогул сыры гной ня так добра, як перапрэлы: ён можа высушыць глебу, як кажуць, падпаліць корань. Трэба старацца гарод падрыхтоўваць з восені, вывясьці гной і заараць. Але, калі па якіх небудзь прычынах гэта ня зроблена, дык вясною гной трэба выкідаць з хлева для таго, каб ён добра перапрэў.

Другая памылка—шмат хто робяць вузкія рады 8—10 вярш. і высокія, як рыба акунькі барозны; на самым вострым хібку іх сеюць буракі рукою і зьлёгка, меленька прыкрываюць. Насеньнем-жа сеюць па большасьці праpослым. Пры такой пасадцы прarосшыя карэнчыкі засыхаюць і гінуць, а калі карэнчык і прыжыў, то праз тое, што ад дажджу зробіцца вялікая асадка, карэнчык астанецца голы да 1 вярш. і тоненькі. У далейшым бурак палягае на бок і пры ўтварэньні скарынкі ў глебе карэнчык пераціскаецца, ад сонечнага сьпёку зачарнее і гіне.

У мінулую вясну я назіраючы гэткую памылку пільна сачыў за ўзростам буракоў у суседзяй. Вынікі былі ад такой пасакі кепскія. Мамут жоўты—буракі далікатныя, яны і аказаліся з падгніўшымі каранямі. Чырвоныя-ж Эккендорфскія засталіся здаровымі, бо іх корань цьвярдзейшы.

Зьнішчыць гэту пасадку трэба так: звычайным акучнікам, калі іншых прылад няма, паганяць рады ў адлегласьці 12—14 вярш., тады перавернутай бараной, альбо лепш граблямі зьнізіць барозны да 1 вярш. вышыні. Тады, зважаючы на тое, якая вільгаць у глебе, і, калі яе многа, дык можа прарасьціць насеньне. У сухую-ж глебу лепш сеяць сухім насеньнем. На зусім лёгкай глебе лепш сеяць пад шнур на роўнай плошчы, чым на паднятых барознах.

Шмат хто яшчэ позьняцца з пасадкаю кораньплодаў. Робяць пасадку пасьля сяўбы ўсяе ярыны. Па майму досьледу раньняя пасадка, асабліва на лёгкіх глеба, лепш позьняй. Падкрэсьліваю яшчэ раз, што па маіх досьледах глыбокая апрацоўка, пэрапрэлы гной, раньняя пасадка—даюць добры ўплыў на ўраджай буракоў.

Селянін **К. Запольскі.**

(Сьмілаўск. р., Апчаўкі с.-с.).

# Кораньплоды забясьпечваюць гаспадарку ад бяскорміцы.

Над пытаньнем кармаздабываньня трэба добра падумаць кожнаму гаспадару, каб выйсьці з таго цяжкага становішча, у якое ён часта пападае зімою, пры недахопу корму для скаціны. А кожнаму хочацца пусьціць лішнюю скаціну і палепшыць ёй кармы. Саломай гэтага ня зробіш, выкі-ж, канюшыны і інш. кармовых пасяўных траў заусёды ня хватае. Кораньплоды ў гэтай справе зробяць вялікую карысьць. Толькі кораньплоды і могуць канчаткова забясьпечыць гаспадарку ад бяскорміцы, павялічыць лік ската і зрабіць жывёлаводзтва больш прыбытковым.

Можа каму і будзе здавацца дзівам, калі я раскажу, як дзес. зямлі пад буракамі дала мне ў год 1155 р. 96 к. даходу. Гэты рахунак праверан на с.-г. выстаўцы ўвосень мінулага году, дзе я выстаўляў свае буракі і дыаграму.

Сорт кармовых буракоў быў Эккендорфскія жоўтыя, ураджай з дзес. пясчанай поўгароднай зямлі 3240 пуд., што на грошы дасьць 1155 р. 96 к., калі прыняць наступны разрахунак:

Дасьледчая дзялянка была ў 400 кв. саж. і дала буракоў 540 пуд. (лічу 25 кап. за пуд.). Ад прарэджваньня на працягу лета бацьвіньня з каранямі атрымаў 168 пуд. (па 12 кап. пуд.). Восеньню атрымаў бацьвіньня для сіласу 200 пуд., з якога гатовага сіласу было 150 пуд. (25 к. п., а ўсяго 540×25=135; 168×12=20 р. 16 к.; 150×25=37 р. 50 к., а разам 192 р. 66 к. Дзялянка ў 400 кв. саж. г.-зн. шостая частка дзесяціны, дала прыбытку 192 р. 66 кап., з дзес. будзе 1155 р. 96 кап.

Прыбытак даступны кожнаму гаспадару. Праўда, дарма тут нічога не даецца, для гэтага трэба і папрацаваць, як сьлед.

У кароткіх словах раскажу як іх гадаваў. На надта пескаватай глебе з падбульбянішча, вясной, як толькі падсохла зямля, я навазіў на гэты кавалак кампоснага перагною з разрахунку 4050 пуд. на дзес. Араў і скарадзіў як заўсёды, але калі прышлося пераворваць, дык запусьціў плуг вяршкоў да 5—6 у глыбіню—мясьцінамі аж выварочваўся пескавата-бялёсы пласт глебы. Пасьля гэтага зрабіў акучнікам маленькія, вяршкоў да 2-х барозны на адлегласьці адна ад другой на 12—14 вяршкоў. Мелкія барозны і нявысокія гранкі я рабіў дзеля таго, каб ня высыхала глеба, абы можна было пры працы хадзіць па барознах. На кожнай гранцы асобнай качаргой праводзіліся пасяўныя баразёнкі, але іх можна рабіць завостраным калом, матыкай ці бокам грабель. Насеньне раўнамерна трусілася па раўкох гранак і тут-жа зараўніваліся затылкам грабель. На гэткі кавалак насеньня буракоў было высеяна 8 фун. Калі буракі ўжо добра ўзышлі, дык я браў драўляную брусковую барану, выбіваў у ёй зубы супроць тых месц, дзе на гранках прыходзілася расьліна і наяжджаў гэтакай бараной удоўж у два сьляды. Барана захоплівала разам па дзьве гранкі зубамі не захопліваючы расьлін, бо проціў іх ня было зубоў. Праз некаторы час буракі прарэджваліся. У першы раз пакідалася адлегласьць паміж расьлінаю ад 2 да 3½ вярш. і адначасова вырванай расадай запаўняліся пустыя месьціны гранак. Пасьля прарэджваньня рабілася акучваньне і апраўка выпадкова засыпаных расьлін.

Акучваньне спынялася тады, калі ўжо ня было як праехаць за бацьвіньнем паміж радоў. Апошняя прарыўка рабілася адлегласьцю

на 5—6 вяршкоў. Пры гэтым трэба яшчэ падкрэсьліць, што прарыўка на працягу лета вельмі добрая справа, затым што кожны дзень можна атрымаць добры харч як з бацьвіньня, так і з каранёў, якія ў апошні тэрмін прарыўкі дасягаюць да 1 ф. Гэта ратуе ад бяскорміцы, як кароў так і сьвіней.

На працягу лета трэба добра сачыць і за сарнякамі, каб яны не глушылі буракоў. На сілас бацьвіньне зрэзвалася перад самай прыборкай буракоў, а самая прыборка рабілася па сканчэньні іх росту, перад самымі маразамі.

Вёска Лукомль, Аршаншчына.

Сел. **С. Каур.**

---

## Дасьледчы гарод на балоце.

Вялікую надзею ўскладаюць сяляне нашай вёскі на балота. З'арганізаванае мэліарацыйнае т-ва ўжо шмат працавала на ім. Хочам дабіцца, каб яго можна было скарыстаць ня толькі на пашу ці на сенажаць, а каб можна было сеяць збожжа. Мы падрыхтавалі 40 гэкт. ральлі к 28 г. Перш чым араць і засяваць балота, мы стараемся пераканацца на вопыце, як на ім працаваць. Вось у 27 г. вясной я зрабіў паказальны гарод, на якім стала выпрацаваўся далейшы плян засеву гародніны.

Поплеч з канавай я адвёў вучастак і ў ім парабіў адз. кавалачкі, на якіх засеяў амаль што ўсю гародніну. Было падложана ўгнаеньня, солі і тамасаўкі з разьліку 24 пуд. на дзес. Сеяў наступныя расьліны:

1) Фасолю. Пасадзіў $1^1/_2$ клгр. на $4 \times 6$ кв. мэтр., усхожасьць на 85—90 проц., рост добры, стручкаватасьць таксама добрая. З гэтай дзялянкі я атрымаў 7 клгр. Сырасьці і дзярніны фасоля не баіцца.

2) Расада капусты вельмі ўсіх зацікавіла. Пасеяў на $1 \times 2$ кв. мэтр. 3-га чэрвеня. Усходы зьявіліся амаль праз 3 дні на 100 проц. Расла хутка, а праз 2 тыдні я выбраў 83 шт. і рассадзіў наўкол на балоце.

3) Капуста. На ўзоранай год назад дзялянцы ў $2 \times 3$ кв. мэтр. я пасадзіў 13 шт. расады. Восеньню сабраў і зважыў, палучылася наступнае: 4 качаны па 15 ф., 4 па 8 і 5 па 2 ф., а разам дзялянка ў 6 кв. мэтр. дала 2 п. 20 ф.

4) Бульба была пасеяна 20 ф. на $6 \times 8$ кв. мэтр. 2 разы палоў. Увосень я пад адным карчом заўважыў 29 штук, з іх 5 вялікіх, а рэшта дробных; з гэтага кавалка я накапаў 3 п. 20 ф., г.-зн. ураджай сам 7.

5) Рабіў пасеў і буракоў гародніх і кармовых, але вынікаў ня было, бо было вельмі сыра. Турнэпс пасадзіў расадай. Прыняўся ён добра, але рос ня важна, ўсё-ж былі карані вагаю ў 3 клгр. Бацьвіньне турнэпсу зацікавіла тым, што каб густа пасеяць, дык можна скарыстаць як зялёны корм для жывёлы, што мы і рабілі пры прараджваньні дзялянкі.

6) Рабілася параўнаньне аўса 1) залаты дождж, 2) узяты з Пад'ельскага т-ва, невядомы.*) і 3) свой просты. Самы лепшы па росту залаты дождж, потым невядомы, а на ўраджай лепшы залаты дождж і свой.

---

*) Аграномы вельмі раілі яго завесьці і мы яго з акр. выстаўкі прывезьлі, на жаль, забыліся як зваць. Узялі яго з Пад'ельскага мэл. т-ва, Асіпавіцкага раёну.

Пасеў травы пад авёс. Вышыня канюшыны была 5 вярш., а адной канюшыны 8—12 вяршкоў. На зіму канюшыну касіць ня варта, бо яна на другі год губляе кусьцістасьць і ад гэтага палова ўраджаю гіне.

Садзіў я і гарбузы, але ў мяне былі не ўраджайныя, а ў сел. Захарошкі В. М. дасягнулі вагой 15 клгр.

Я падлічыў ураджай сена-канюшыны на кавалку ў 1.200 кв. саж. Першы ўкос быў 60 пуд. (касьба позьняя) і атавы 35 пуд. Калі-б касьба была ранейшай, дык атрымалі-б атавы больш. Гэта складае на гэкт. 200 п. па 70—80 кап. пуд., замест тае асакі, што раней давала 30—40 п. з дзес. па 25—30 кап. пуд.

Думаем у гэтым годзе больш стала выпрацаваць досьлед і запіс, будзем вывучаць характар нашага балота, а потым на ім засяваць збожжа і г. д.

Сел.-дасьлед. **А. Карунчык.**

(в. Сьвятое, Жлоб. р.)

---

# Які я маю прыбытак ад кураводзтва.

У нас большая частка сялян мала зьвяртае ўвагі на птушак, у тым ліку і на курэй. Пры добрым жа доглядзе куры даюць добры прыбытак гаспадарцы. Я ведаю шмат такіх сялян, у якіх куры выплачваюць увесь с.-г. падатак. Раней я таксама кураводзтва лічыў жаночай справай, але кнігі і газэты мяне падштурхнулі і я стаў сачыць за іх носкасьцю, паляпшаць пароду курэй і догляд за імі.

У мяне былі куры пародзістыя (мінорکі), але іх яйцаноскасьць была розная. Адны нясьлі 25—30 яец у год, другія 60—80. Я стаў дрэнных курэй выводзіць. Прыдабыў пеўня пароды „Племутрок“ і стаў курэй правільна карміць, даваць зярняты, кораньплоды, мясную і касьцяную муку і г. д. У першы год (1926 г.) калі я ўводзіў гэтае палепшаньне, мне падлічыць поўнасьцю прыбытку не ўдалося. Але ў 1927 г. я маю поўны падлік прыбытку ад сваіх курэй. Усяго ў мяне ў 1927 г. было 15 яйцаноскіх кур і адзін певень. За год я ад сваіх курэй атрымаў 1.740 яец, значыць у сярэднім адна курыца мне прынесла 116 яец; але трэба адзначыць, што некаторыя куры несьлі да 150 яец. З іх 110 штук я прадаў суседзям на завод па 50 капеяк за дзесятак, 1.460 шт. прадаў на рынку ў сярэднім па 40 кап. за дзес., а на 42 яйцы пасадзіў 3 курыцы, якія вывялі 31 куранё. Увосень куранят прадаваў па 60 кап. штуку. Калі далічыць да гэтых яец тыя, што засталіся ў гаспадарцы, то выходзіць, што я атрымаў ад сваіх курэй 87 р. 50 к. Ня лічачы свае працы па догляду, а толькі кармы, як зярняты, бульбу, мясную муку (касьцяную сам раблю), што каштавала 13 р. 50 к., дык застаецца прыбытку 74 р. Асобнага куратніка я ня маю, а куры знаходзяцца ва ўцёпляным хляве.

Сел. **А. Фурса**

---




## Досьлед гадоўлі 2-хмесячных парасят рознымі кармамі.

У маладым узросьце сьвіней, важна даць ім у корм даволі бялкоў. Сяляне, ня ведаючы аб гэтым, часта кормяць галоўным чынам адной бульбай, у якой амаль што адсутнічаюць бялковыя кормы. Праз гэта парасяты растуць вельмі павольна і важаць к году да 3—4 пуд.

Пры правільным-жа кармленьні, гэту вагу ў 4—7 м-цаў можа мець нават парася простай, непалепшанай пароды. Багаты бялковым пажыўным кормам амаль усе зернавыя кармы, асабліва-ж гарох, лубін (зерня), макуха ільняная, а таксама здыманае малако. Апошняе лічыцца самым лепшым кормам пры гадоўлі парасят, бо бялок яго вельмі добра ператраўляецца. Здыманае малако можна шырока скарыстоўваць пры гадоўлі парасят масларобнымі і малочнымі т-вамі. Турская с.-г. дасьледчая станцыя паставіла досьлед з мэтай устанавіць: якім кормам магчыма карміць парасят з аднолькавым посьпехам як і здыманым малаком. Было ўзята васьмёра парасят, 2-х месячнага ўзросту, разьдзелена папарна і карміліся па нормах (Кельнера).

У кармовую дачу ўваходзілі бульба, а бялок даваўся ў наступных кармох: 1-я група—здыманае малако, 2-я гр.—макуха, 3-я гр.—гарох і 4-я гр.—зерня лубіну.

Бульба і лубін даваліся варанымі. Звараны лубін вымочваўся 3 дні ў вадзе, якая зьмянялася тры разы. Вынік з гэтага досьледа атрымаўся наступны: на кожныя 100 клгр. жывой вагі, прыбыла вагі за тры месяцы:

ад здыманага малака 132 клгр.
„ ільняной макухі 132 „
„ гарохавай мукі . 99 „
ад варанага і мочанага лубіну . . . 117 клгр.

Калі паглядзець, як аплачваўся корм, дык палучым гэтакія лічбы: на 1 кілёграм прыросту жывой вагі пашло пры харчаваньні здыманым малаком—3,7 кармовыя адзінкі, пры харчаваньні макухай—3,7 карм. адз., гарохавой мукой—4,8 карм. адз. і лубінам—4,4 карм. адз.

З прыведзеных даных найлепшым намесьнікам здыманага малака пры гадоўлі парасят вышла ільняная макуха. Зварочвае ўвагу добры ўплыў на рост парасят зерня лубіну, прыгатаванага вышэй паказаным чынам. Па свайму ўплыву ён лепш за гарохавую муку. Як вядома, лубін можа расьці на пустых глебах і даць ураджай да 150 пуд. зерня, якое па спажыўнасьці аднолькава з аўсом і ячменем.

Гэта сьведчыць аб тым, што лубін выгадна разводзіць ня толькі на ўгнаеньне, але і на зярняты. Ільняная макуха ёсьць лепшы корм; яна аднолькава з здыманым малаком пры гадоўлі парасят.

Досьлед праведзен на жывёлаводнай станцыі т. М. Ф. Юнгер, пад маім кіраўніцтвам.

**М. Драздоў.**

Турская Дасьледчая Станцыя.

---

# Хваробы цялят і як іх лячыць.

**Белы панос.** Хвароба гэтая, найбольш бывае ў маладых цялят, пачынаючы з 3-4 дня яго жыцьця і пазьней. Сьмяртэльнасьць пры гэтай хваробе дасягае да 90 проц., г. зн., што з 100 захварэўшых цялят здыхае 90. Апрача таго, гэта хвароба вельмі заразьлівая і трэба зараз-жа пры зьяўленьні яе вылучыць хворых цялят з агульнага хлева, які пасьля гэтага трэба добра ачысьціць і зрабіць у ім дэзынфэкцыю. Цяля пры гэтай хваробе спаражняецца надзвычайна рэдкім калам, які мае белаваты колер, таму і завуць хваробу *„Белы панос“*.

Раней лічылі, што белы панос здараецца ад кепскага догляду за каровай, ад нечыстаты пры выцяленьні каровы, ад застуды і інш. Цяпер-жа навука даводзіць, што белы панос—хвароба заразьлівая, нават пошасная і што залежыць яна ад асаблівага мікроба, а ўсе гэтыя вышэй названыя прычыны толькі дапамагаюць ёй выявіцца.

Пазнаць гэту хваробу ня трудна: цяляты адразу перастаюць ссаць карову, робяцца смутнымі, у іх зьяўляецца гарачка і пачынаецца панос. Спачатку кал бывае густаваты і жаўтаваты, потым ён робіцца рэдкі і зеленаваты з белымі кавалкамі неператраўленага малака, вельмі сьмярдзіць і вылятае ззаду часта мімаволі хворага цяляці. Хворыя цялята хутка слабеюць, курчацца і прападаюць у першыя-ж 1-3 дні хваробы.

Лечаць белы панос, калі няма пад рукамі засьцерагаючае сыроваткі, шмат якімі лякарствамі, але вылячыць хворае цяля ня вельмі лёгка. Спачатку трэба ачысьціць жывот, даўшы дзеля гэтага 2-3 лыжкі рыцыны. Пасьля, гадзін праз 12 даюць па 2 разы на дзень па чайнай лыжцы таніну і ва ўвесь час хваробы трэба даваць раствор крэоліну—капель 20 на шклянку гатаванай вады. Заднюю кішку прапалоскваюць салоднаю вадою разы 2 на дзень: бяруць "6" частак белае солі, „25“ частак соды і „1.000“ частак цёплае вады; за раз уліваюць у кішку ня больш бутэлькі гэтага расолу.

Вельмі важна, каб сваечасова ўнікаць гэтае хваробы ў гаспадарцы. Дзеля гэтага перад самым ацяленьнем карове трэба прамываць родавыя месцы карболаваю вадою альбо крэолінаваю. Наогул, трэба сачыць за чыстатою ў хлеве. Каровам патрэбна даваць у вадзе салёнага квасу па 1-2 лыжкі на вядро вады ў дзень. Хлявы патрэбна часьцей чысьціць ад гною і пабяляць вапнаю; сьцены, жалабы і ўсё, што толькі знаходзіцца ў хляве, а таксама і ўсю падлогу добра зьліваць вапнаю.

**Хвароба пупка.** Гэта хвароба бывае звычайна ў цяляці зараз-жа пасьля зьяўленьня яго на сьвет. Прычынай гэтай хваробы бывае няўмелае адрываньне пупавіны і заражэньне яе.

Каб папярэдзіць гэту хваробу, трэба пупавіну цяляці абмываць 2 проц. растворам карболаўкі, або 3 проц. растворам крэоліны. Гэтым-жа растворам трэба абмыць і пупок захварэўшага цяляці, каб не дапусьціць яго заражэньня.

**Ломкасьць касьцей у цялят.** Хвароба гэта бывае ад няправільнага разьвіцця цяляці яшчэ да зьяўленьня яго на сьвет, альбо ад няправільнай гадоўлі ў далейшым. Гэту хваробу выклікае недастача ў корме соляй вапны. Таму пры лячэньні гэтае хваробы і трэба прыбаўляць у корм крэйду, высеўкі, ці даваць па аднэй чайнай лыжцы ў дзень фосфарна-кіслай вапны.

**Запор у цяляці.** Запор бывае, калі цяля гноіць рэдка і вельмі цьвёрдым; жара трохі падымаецца, рухі ў жываце становяцца слабыя і рэдкія; сьсе цяля вельмі мала і ў большасьці ляжыць.

Лячэньне—такое: даецца 1-2 лыжкі рыцыны або алею і ставіцца клізма з цёплай мыльнай вады.

Вэтэрынарны ўрач **М. Жарын.**

---

# С.-г. хроніка.

**Арганізаваньне каапэратываў у БССР.** З 31-га кастрычніка 1927 г да 20-е сакавіка 1928 г. ў БССР арганізавана вытворчых каапэратываў

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Калгасаў . . | 50 | з лікам членаў | 396 | чал. |
| Машынных т-ваў . | 47 | „ „ | 933 | „ |
| Малочных арцеляй | 70 | „ „ | 2401 | „ |
| Мэліорац. т-ваў . | 33 | „ „ | 625 | „ |
| Пчалярных т-ваў . | 5 | „ „ | 128 | „ |

птушкаводных т-ваў—3, садова-гародных—6, жывёлаводных—11, пасёлкаў—12, агнятрывалых—6, насеннаводных—4.

## Канфэрэнцыя сялян дасьледчыкаў ў Віцебску.

30 сакавіка Віцебскім АкрЗА сумесна з Віцебскай Дасьледчай Станцыяй была склікана канфэрэнцыя сялян-дасьледчыкаў, на якую прыехала 23 чалавекі. На канфэрэнцыі былі заслуханы даклады: загадчыка АкрЗА т. Еўдакімава: „Аб пасяўной кампаніі“; прадстаўніка Бюро сялян-дасьледчыкаў пры Навукова Дасьледчым Інстытуце тав. Чуйко: „Аб прынцыпах арганізацыі і працы Бюро сялян-дасьледчыкаў“; даклад загадчыка Віцебскай Дасьледчай Станцыі: „Аб працы за мінулы год сярод сялян-дасьледчыкаў. Быў шэраг дакладаў з мейсц сялян-дасьледчыкаў аб іх працы; некаторыя дасьледчыкі вядуць цікавую і важнаю працу па вывучэньню гадоўлі ільну, лубіну на насеньне, параўнаньне карыснасьці тых альбо іншых занятых папараў. Пасьля абгаварэньня дакладаў былі дэталёва разгледжаны тэмы і схэмы досьледаў па розных галінах сельскай гаспадаркі; кожны дасьледчык узяў тую альбо іншую тэму; Дасьледчая Станцыя дае для досьледаў сартавое насеньне і штучнае ўгнаеньне. Вялікую ўвагу ўдзельнікі канфэрэнцыі і цікавасьць праявілі к сортаапрабаваньню бульбы, гэтую тэму ўзялі амаль што ўсе дасьледчыкі. Патрэбна адзначыць, што канфэрэнцыя прайшла ў выключна дзелавай абстаноўцы, зьехаўшыяся вельмі ўважліва аднясьліся як да схэм досьледаў, таксама і да тлумачэньня, якое давалася па таму альбо іншаму досьледу, удзельнікі цалком зразумелі усю важнасьць і адказнасьць узятай на сябе працы. **В. Чэмелаў.**

Віцебская Дасьледчая Станцыя.



## Як арганізаваць калектыўную гаспадарку.

Выгаду буйнай гаспадаркі сяляне ведаюць даўно. Яны бачылі на прыкладзе яшчэ панскіх маёнткаў, што пры правільнай арганізацыі ад іх палучалі вялікія прыбыткі. Праўда, паны гэтыя вялікія прыбыткі атрымоўвалі праз эксплёатацыю працоўнага насельніцтва. Уласьнікі маёнткаў эксплёатавалі бяднейшае насельніцтва шляхам павялічэньня працоўнага дню і памяншэньня заработнае платы.

Буйныя-ж гаспадаркі пры Савецкай Уладзе ні таго ні другога ня ўжываюць. Але большасьць з іх таксама маюць вялікую перавагу над дробнай сялянскай гаспадаркай. Саўгаспадаркі амаль што ўсе зьяўляюцца рэнтабельнымі. Калектыўныя гаспадаркі ў наступны момант таксама куды палепшыліся, а некаторыя з іх настолькі ўзмацніліся, што сяляне сапраўды пачынаюць бачыць у іх пазбаўленьне ад кепскага жыцьця. Гэта мае сваё пацьвярджэньне ў тым, што калектыўныя гаспадаркі ўжо маюць большую ўраджайнасьць, больш высокую прадукцыйнасьць жывёлы і наогул вышэйшую таварнасьць. Заработак насельніцтва калектываў таксама куды большы, чым у сялянскіх гаспадарках.

Ня будзем пералічаць усіх тых пераваг, якія мае буйная гаспадарка наогул, а ў прыватнасьці калектыўная, а зараз зоймемся такім пытаньнем, як арганізаваць калектыўную гаспадарку.

Для арганізацыі камуны, арцелі альбо т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, наперш трэба ставіць так пытаньне, каб кожны селянін добра ўявіў сабе, якую карысьць дае калектыў. Ён павінен ведаць усе ўмовы калектыўнага жыцьця і яскрава прадугледзець розьніцу паміж паасобнай і калектыўнай гаспадаркай. Дзеля гэтага сялянам, жадаючым арганізаваць сваю гаспадарку, трэба зьвярнуцца да агранома альбо інструктара, каб апошнія растлумачылі аб выгадах і парадку арганізацыі калектыўных гаспадарак, паведамілі пра работу і жыцьцё ўжо існуючых калектываў, пра ільготы і г. д. Мала гэтага, агранома павінен параіць сялянам, каб яны зьвярнуліся ў адну з калектыўных гаспадарак і азнаёміліся з жыцьцём калектывістаў. Калі сяляне зразумеюць выгаднасьць вядзеньня калектыўнай гаспадаркі і ўявяць яскрава, што яны будуць рабіць і як будзе цячы жыцьцё, тады яны ўжо могуць сьмела арганізоўвацца ў калектыў.

Пасьля гэтага перад імі паўстае пытаньне, і вельмі важнае пытаньне, аб падборы членаў. Лепш усяго арганізоўваць калектыў з сялян, якія ведаюць адзін другога і давяраюць адзін другому. Трэба таксама зьвярнуць увагу і на падбор добрых кіраўнікоў, бо пасьпяховасьць справы ў многа раз залежыць і ад таго, хто будзе кіраваць калектыўнай гаспадаркай. Дзеля гэтага для кіраўніцтва павінны быць абраны найбольш сьвядомыя людзі.

Далей трэба вырашыць пытаньне аб разьмеры будучай гаспадаркі і тым напрамку, які можна надаць гаспадарцы ў залежнасьці ад рыначных і эканамічных умоў. Тут патрэбна ўжо дапамога аграднома. Агроном вызначыць напрамак гаспадара і падлічыць магчымы прыбытак, які будзе атрымоўвацца ў гаспадарцы, а гэтак сама і колькі трэба для яе вядзеньня цягавай і людзкой сілы. У залежнасьці ад апошняга вырашыць пытаньне колькі-ж сямей можна пасяліць у арганізуемай гаспадарцы, каб на атрыманы прыбытак можна было добра працаваць. Практыка паказала, што лепш калякгыў працуе, калі ў ім налічваецца ад 10 да 15 сямей.

Далей застаецца толькі аформіць арганізацыю калякгыўнай гаспадаркі. Дзеля гэтага трэба склікаць агульны сход усіх будучых членаў калякгыва, на якім вырашыць пытаньне аб форме калякгыўнай гаспадаркі і прыняць статут (устаў). Калі члены жадаюць арганізаваць калякгыўную гаспадарку, у якой мяркуецца аб'яднаць працу членаў, усе сродкі вытворчасьці і разьмеркаваньне прадуктаў, тады трэба прымаць устаў камуны; калі мяркуецца зрабіць агульнай толькі працу членаў і сродкі вытворчасьці, а прадукты маецца на ўвазе разьмяркоўваць паміж членамі, дык трэба арганізоўваць с.-г. арцель. У выпадку-ж, калі члены мяркуюць зрабіць агульнай толькі працу членаў, а сродкі вытворчасьці застаюцца паасобнымі, трэба арганізоўваць т-ва па супольнай апрапоўцы зямлі. Затым трэба заслухаць кожны параграф статуту, абгаварыць і вырашыць, як будзе наладжана работа ў гаспадарцы, як будзе арганізована разьмеркаваньне. Трэба зьвярнуць таксама ўвагу і на забясьпячэньне старых і дзяцей. Далей застаецца толькі зарэгістраваць статут у РВК, выпрацаваць і прыняць здавальняючую інструкцыю ўнутранага распарадку ў калякгыве і прыступіць да працы.

Л. Агееў.

---

# Адказы на запытаньні.

**Працоўнай арцелі па агнятрываламу будаўніцтву „Адраджэньне"** на запытаньне 1) Куды зьвярнуцца, каб атрымаць ад РВК у арэнду прылады для выробу чарапіцы на ільготных умовах, якія не скарыстанымі ляжаць на дварэ РВК, а таксама працягнуць тэрмін арэнды і зьнізіць плату за арэндаваны ў мінулым годзе станок для выробу чарапіцы.

**Адказ**: Зьвярнецеся ў Акр. Зем. Аддзел, які рэгуліруе пытаньні аплаты амортызацыі за інвэнтар. Прымерная расцэнка аплаты ўстаноўлены Тэхнічным Зьездам таварыстваў агнятрывалага будаўніцтва, якая зьмешчана ў матар'ялах зьезда § § 1—8. Акрземаддзел гэту справу разгледзіць.

2) Ці можна арцелі атрымліваць непасрэдна цэмант з заводу і выгружаць з вагонаў самой арцелі, для зьніжэньня расходаў на гэта. Раней арцель сама выгружала, але ўсё роўна плату за выгрузку з арцелі бралі.

**Адказ**: Арцель можа атрымліваць цэмант непасрэдна з заводу праз Цэнтраземсклад без перагрузкі цэманту, унёсшы задатачную суму ў мясцовае аддзяленьне Цэнтраземсклада. Сама-ж арцель догавар з заводам на пакупку цэманту рабіць ня можа.

Выгрузка цэманту з вагонаў робіцца, згодна ўстаноўленага закона, грузчыкамі. Але калі Вы самі выгрузілі, то, бязумоўна, плаціць за яе выгрузку не павінны.

---




# Пра пасадачны матар'ял для саду.

Кожны год, як толькі набліжаецца вясна ці восень шмат сялян зьвяртаецца да аграномаў і ў земаддзелы з пытаньнем, дзе можна купіць, альбо адкуль выпісаць некалькі штук прышчэпак? Пытаюцца аб умовах прадажы прышчэпак, аб гатунках і інш.

У гэтым артыкулу я хачу пазнаёміць чытачоў, як у БССР стаіць у сучасны момант справа з пасадачным матар'ялам.

Адным з грунтоўных пытаньняў у справе разьвіцьця садоўніцтва зьяўляецца падрыхтоўка пасадачнага матар'ялу. Вырашчваньне добрых прышчэпак—справа вельмі цяжкая і дарагая. Яна вымагае спэцыяльных ведаў. Прышчэпкі вырашчваюцца ў так званых, пладовых гадавальніках, з якіх насельніцтва найбольш і атрымоўвае ўжо гатовыя прышчэпкі для пасадкі саду. У даваенны час пладовыя гадавальнікі засноўваліся, галоўным чынам, абшарнікамі і часткова земствамі і сельска-гаспадарчымі школамі.

У 1923 г. на абшарах 3-х б. беларускіх губ.—Менскай, Магілеўскай і Віцебскай—налічвалася каля 150 гадавальнікаў з агульным лікам прышчэпак у 300 тыс. штук. Гэта складала ня больш 80 проц. існаваўшай у гэты час патрэбнасьці ў пасадачным матар'яле. Пасадачны матар'ял быў вельмі дарагі і яго куплялі толькі заможныя гаспадары.

У сучасны момант ад гэтых гадавальнікаў нічога не засталося, усе яны зьнішчаны за час вайны і равалюцыі, што ўстаноўлена спэцыяльным дасьледваньнем іх, зробленым земаддзеламі ў 1924 г. Патрэбнасьць-жа ў пасадачных матар'ялах, у параўнаньні з даваенным часам, заметна ўзрасла і па ўсей БССР дасягае да 650 тыс. штук прышчэпак у год.

Прымаючы гэта пад увагу Наркамземам прыняты загады па заснаваньню новае сеткі гадавальнікаў, якая забясьпечвала-б поўнасьцю маючуюся патрэбнасьць у прышчэпках. Усяго намечана заснаваць 50 гадавальнікаў з агульнай плошчай у 330 гэкт., з штогодняй агульнай прадукцыяй прышчэпак у 950 тыс. штук.

Праца па арганізацыі і заснаваньню намечанае сеткі пладовых гадавальнікаў была распачата ўвосені 1924 г. і ў сучасны момант на Беларусі ўжо існуе 52 гадавальнікі з агульнай плошчай у 336 гэкт., у якіх налічваецца да 2-х мільёнаў штук пладовых расьлін (дзічак, акуліровак і прышчэпак-аднагодак). Гадавальнікі гэтыя заснованы Акрземаддзеламі, Белсельтрэстам (у саўгаспадарках), с.-г. каапэрацыйнымі аб'яднаньнямі і інш. арганізацыямі, паміж якімі яны разьмяркоўваюцца так:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Акрземаддзелаў . . | 12 | гадавальнікаў | на плошчы | —103,1 гэкт. |
| Белсельтрэст . . . | 14 | „ | „ | — 95,6 „ |
| С.-г. каапэрат. . . . | 9 | „ | „ | — 46,2 „ |
| Іншых . . . . | 17 | „ | „ | — 91.1 „ |

Па значэньню свайго заснаваньня выхавальнікі падзяляюцца на буйна-раённыя, з плошчамі ад 7 да 24 гэкт. і дробна-раённыя— у 3, 5—6, 5 гэкт. Буйна-раённых выхавальнікаў маецца 22 з агульнай плошчай у 190 гэкт. У бліжэйшыя 2 гады плошча буйна-раённых выхавальнікаў мае быць пашырана у 2-3 разы. Да ўсіх гэтых выхавальнікаў паступова прыстасоўваецца культура гародняга насеньня, ягадных хмызьнякоў і ўсіх іншых спэцыяльных культур. У выніку правядзеньня гэтых мерапрыемстваў, існуючыя буйна-раённыя выхавальнікі будуць рэорганізаваны ў буйныя садова-гароднія базы па забесьпячэньню розным пасадачным матар'ялам і гароднім насеньнем.

Першы водпуск прышчэпак з заснаваных выхавальнікаў чакаецца ўвосень гэтага году. У гэтым годзе ўвосень мае быць адпушчана 15-ю выхавальнікамі, заснованымі ў 1924 г., 300 тыс. штук каронІстых прышчэпак; у 1929 г. з выхавальнікаў чакаецца 600 тыс. шт. прышчэпак, а з 1930 г. усімі 52-ма выхавальнікамі будзе адпускацца штогодна да 1 мільёну шт. прышчэпак.

Сьпіс выхавальнікаў, якія маюць выпусьціць у гэтым годзе першую партыю прышчэпак і адрасы іх зьмяшчаюцца ў наступнай табліцы:

| Месца знаходжэньня выхавальнікаў. | Паштовы адрас |
|---|---|
| 1. Калхоз „Уперад", Мазырск. акругі | Мазыр, Сядзельнікі. |
| 2. Саўгас „Пяскі", Гомельск. акр. | Гомель, Саўгас „Пяскі" |
| 3. Садовая гасп. Хмельнікі, Бабр. акр. | Бабруйск, АКРЗА. |
| 4. Саўгас „Івань" Бабруйск. акр. | Слуцак, Саўгас „Івань". |
| 5. Хутар Беляны, Бабр. акр. | Слуцак, Аграпункт. |
| 6. Саўгас Дварэц, Бабр. Акр. | м. Глуск, Саўгас „Дварэц". |
| 7. Вёска Гліўні, Менск. акр. | ст. Барысаў, в. Гліўні. |
| 8. Варонецкі с.-г. Тэхніхум | ст. Барысаў, Тэхнікум. |
| 9. Саўгас „Калініна" Менск. акр. | Самахвалавічы, „Калініна. |
| 10. Саўгас „Блонь", Менск. акр. | Пухавічы, „Блонь". |
| 11. Саўгас імя Лекерта | Менск. Саўгас „Лекерта". |
| 12. Садовая гаспадарка „Лютня" Аршанск. акр. | Мсьціслаў, „Лютня". |
| 13. Саўгас „Вусьце", Аршанск. акр. | Ворша, „Вусьце". |
| 14. Смалянская с.-г. школа Арш. акр. | Смаляны, С.-г. школа. |
| 15. Горацкая с.-г. фэрма, Бел. с.-г. Акадэміі | Горы-Горкі, Акадэмія. |

Пасадачны матар'ял будзе прадавацца як на месцы, так і па пісьмовых заказах. Заказы будуць прымацца з пачатку лета.

Згодна пастановы Наркамзему пасадачны матар'ял будзе адпушчацца ў першую чаргу сялянам, якія будуць садзіць высялковыя і групавыя сады, а таксама калгасам і каапэрацыйным гаспадаркам. Сяляне, якія пажадаюць пасадзіць высялковы ці групавы сад будуць мець магчымасьць атрымаць ад Белсельбанку доўгатэрміновую пазыку на пакупку пасадачнага матар'ялу. На гэтую мэту Белсельбанк мае 125.000 руб. Жадаючым атрымаць крэдыт на пасадку высялковага альбо групавога саду трэба зьвяртацца да свайго раённага агранома, які будзе складаць праэкт пасадкі саду і затрабуе патрэбны крэдыт.

Інструктар па садоўніцтву **К. Хабэнка.**

# Як старое апаўшае лісьце пашырае грыбныя хваробы ў садзе.

Садоўніцтва ва ўмовах Беларусі лічыцца інтэнсыўнай галінай сельскай гаспадаркі. Старыя і запушчаныя ў час вайны сады зараз хутка аднаўляюцца і пашыраюцца плошчы новых садоў.

Аднак, ня гледзячы на гэта, ураджай нашых садоў ня вельмі высокі, і што яшчэ горш, зусім нявысокай якасьці. Часта бываюць здарэньні, што селянін увосень ахвотней прадае антонаўку па 50—60 кап. за пуд бяз выбару, чым адабраны першы сорт (таварны) па 1 р. 20 к.—1 р. 50 к. за пуд. Чым-жа гэта можна тлумачыць? А тым, што пры някультурным спосабе вядзеньня садовай гаспадаркі, яшчэ на дрэве зімнія таварныя яблыкі на 80—90 проц. бываюць пашкоджаны паршою [1]). Зразумелая рэч, што садаводу няма сэнсу выбіраць 10—20 проц. яблык з усяго ўраджаю і за цану 1 р. 50 к., бо рэшта страціць вартасьць і сярэдняй ходкасьці тавара.



Мал. 1. Парша на ігрушах (Venturia pirina). Другі від гэтай хваробы паражае яблыкі.

Возьмем яшчэ другі прыклад. Прыблізна з паловы лета і да восені ў нашых садох пачынаюць гніць яблыкі і ігрушы. Асабліва гніе апорт. Вялікія яго плады часта на палову, а то і па ўсяму дрэву вісяць і падаюць гнілымі. Загніўшыя яблыні маюць на бурай гнілі шэравата-белыя кружочкі. Гэта выходзяць на паверхню яблыка зароднікі грыбка, каб заражаць новыя плады. Гэты грыбок і ёсьць пладовая гніль [2]). Аднак частка гнілых яблык застаецца вісець на дрэве і да позьняй восені, але пры гэтым гнілое яблыка прымае з паверхні чорны, бліскучы выгляд.

Толькі пачаўшыя гніць яблыкі дагніваюць ужо пасьля іх прыборкі, дзе-небудзь у спраце.

Вось гэтых двух прыкладаў даволі, каб зрабіць вынік, што шмат ураджаю ў садзе гіне альбо выходзіць дрэннай якасьці (з паршою). Значная доля гэтай страты ў садзе бывае і па віне садавода-гаспадара, які з вясны не паклапаціўся аглядзець сад.

Культурнаму догляду сада вясною трэба надаваць асаблівае значэньне. Каб мець з восені поўны ўраджай яблык (а не палову ці адну чвэрць) і прытым чыстых і здаровых, трэба сад захаваць ад грыбных хвароб, якія перазімоўваюць у старым апаўшым лісьці, што валяецца пад дрэвамі, а то і вісіць на дрэвах. У гэтым-жа лісьці знаходзяць сабе прытулак і розныя шкодныя кузыркі.

---

[1]) Venturia Inaequalis Aderhold.

[2]) Monilia fructigena.

Культурны садавод заўсёды рана вясною аглядае сад і зграбае пад дрэвамі лісьце і абарве на дрэвах, абрэжа засохшае гальлё, падчысьціць мох на пнях і суччы і выбеліць іх вапнаю. Усё сабранае лісьце і гальлё лепш спаліць. Зямлю ў садзе трэба ўзараць. Ня будзе шкодным і апырскаць сад да часу зьяўленьня лісьця растворам сіняга камяню ці якой-небудзь іншаю атрутаю. Вось гэта самае маленькае, што вымагаецца ад садавода.



Мал. 2. Пладовая гніль (Monilia fructigena). Летам на загніўшых яблыках кружочкамі выступаюць летнія зароднікі грыбка. Восеньню такія яблыкі чарнеюць, замест летніх зароднікаў зьяўляюцца зімнія, якія заражаюць яблані на другі год.

Аднак, чаму мы павінны надаваць такое вялікае значэньне ачыстцы сада вясною? Справа ў тым, што старое апаўшае лісьце перахоўвае ў сябе ўсю зіму і вясну шмат якія грыбныя хваробы сада. Я ўжо называў паршу, пладовую гніль яблыні і ігрушы. Але апрача гэтых двух хвароб ёсьць яшчэ і шмат іншых грыбкоў, якія шкодзяць вішні, сьлівам, асабліва агрэсту (так званая амэрыканская мучністая раса). Каб паказаць, як пашыраюцца гэтыя грыбныя хваробы сада і чаму яны ў сваім пашырэньні зьвязаны з старым лісьцем, апішам коратка які-небудзь толькі адзін грыбок, напрыклад, паршу (Venturia inaequalis).



Мал. 3. Летнія зароднікі (канідіі) паршы (Fysicladium dendriticum). А. Зароднікі выступаюць з-пад эпідэрмы ліста ў пачатку чэрвеня і даюць зеленаватыя аксамітныя плямы. В. Тыя-ж зароднікі ўжо прарастаюць (у каплі вады праз 24 гадзіны).

У пачатку чэрвеня на лісьцях яблын зьяўляюцца цёмныя плямы з зяленаватым пылком (налётам). Праз нейкі час зьяўляюцца новыя плямы; плямы пераходзяць і на плады. Тут таксама плямы бываюць чорныя, круглаватыя. Яблыка ў гэтым месцы падсыхае, трэскаецца, траціць сваю форму і г. д.

Цёмныя зелянаватыя плямы на лісьцях і на яблыках летам гэта ёсьць летнія зароднікі (канідзіі) грыбка шкодніка, які асяліўся ў самым верхнім слоі каморак ліста. Гэтыя летнія зароднікі (Fusicladium dendriticum) і заражаюць новае лісьце і плады ў садзе на працягу ўсяго лета. К восені-ж на гэтых самых паражоных лісьцях закладваюцца ўжо зімовыя пладовыя сумачкі (перытэцыі), якія абавязкова павінны перазімаваць у апаўшым і падгніўшым лісьці. За гэты час высьпяваюць перазімоўваючыя зароднікі грыбка і толькі вясною (нават позна) яны выходзяцsmåць з сумак [1]).

[1]) Праўда, у гэтага грыбка могуць часткаю перазімоўваць і летнія зароднікі.

Гэтыя зімнія зароднікі заражаюць ужо ў пачатку лета новы ўраджай. Такая сувязь з старым апаўшым лісьцем і ў некаторых другіх грыбкоў, якія шкодзяць у садзе.

Цяпер зразумела, чаму трэба рана вясною сабраць лісьце і яго спаліць, а зямлю заараць, каб такім чынам зьнішчыць заразу да пачатку яе шкоднага жыцьця.

Зразумелая рэч, што гэта мера будзе мець большую карысьць, калі такую культурную ачыстку сада зробіць не адзін гаспадар, а і яго суседзі, увесь пасёлак, кожная вёска. Тады неахайны сусед сваім запушчаным садам ня будзе перадаваць заразу другім.




Мал. 4. Утварэньне зімніх зароднікаў паршы яблык. А. Перытэцый з сумкамі, які закладваецца ў паражонным лісту яблані. В. Адна сумка з 8 зароднікамі (спорамі).
Споры гэтыя прарастаюць вясною, калі згіне лісьце.

Сяляне, праводзьце ачыстку садоў ад старога апаўшага лісьця.

Аглядайце сады, каб мець чысты ўраджай. С. Т.

# Паштовая скрынка

**Сел. А. Вайцэховічу**. Для таго, каб гарод даваў больш прыбытак, трэба палепшыць за ім догляд; карыстайцеся для гэтага вынікамі досьледаў сялян-дасьледчыкаў, якія зьмешчаны ў часопісі „Плуг“ за мінулыя гады і сачыце, што будзе дадавацца ў далейшым, парадзьцеся з аграномам, які дасьць адказ што больш мэтазгодна садзіць ва ўмовах вашай гаспадаркі. Для пастаяннага карыстаньня прапануем падручнік „Практычнае гародніцтва“ П. Н. Штэйнберга (цана 60 кап.), які можаце выпісаць ад Выд-ва НКЗБ.

**В. Даўгаполаву.** Ваш артыкул „Картачная сыстэма вотпуску леса“ зьмешчан ня будзе, бо ён высьвятляе пытаньне для лясьнічых, якім гэта сыстэма вядома.

**К. Н.** Артыкул „Чаму патрэбен плян для вядзеньня лясной гаспадаркі“ таксама не прыстасованы для масавага сялянства і ня будзе друкавацца.

**Я. М. Батаеву**. Артыкул „Крывое зеркало“ перасланы для скарыстаньня ў газэту „Савецкая Беларусь“.

**Дацэнту Т. Паўлаву**. Ваш артыкул „Колькі можна атрымаць малака ад кароў“ у гэтым нумары ня зьмешчан па тэхнічных умовах. Пажадана і гэта было-б больш мэтазгодным, каб Вы яго самі скарацілі на палову і дадалі табліц ня больш як на 1/2 старонкі, тады будзе зьмешчан у адным з наступных нумароў.

**В. Чарныш (Польшча)**. Прэмія да часопісі „Плуг“ Вам выслана.

**Цынкову М. і Пліс Д.** Ваш матэрыял будзе скарыстаны.

**А. Сьмірнову**. Ваш артыкул „Догляд племяных сьвіней“ будзе надрукован у адным з бліжэйшых нумароў.

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ.

## Што трэба ведаць гаспадару пра лугавыя мешанкі.

Побач з угнаеньнем і апрацоўкай глебы, грунтоўнае палепшаньне сенажацяй робіцца пасевам на іх шматгадовых лугавых мешанак. Мешанкі заўсёды складаюцца з насеньня злакавых траў, напрыклад, ціма-фейкі, пырніку і бабовых, розных канюшын і інш. Гэта робіцца таму, што карані злакавых траў распаўсюджваюцца і скарыстоўваюць пажыўныя матэры ў верхніх пластох глебы, да 4—6 вярш., таму для добрага ўзросту іх трэба, каб глебы былі пульхныя і мелі даволі пажыўных матэрый. Карані-ж бабовых траў маюць глыбокую каранёвую сыстэму, пры дапамозе якой яны добра скарыстоўваюць вільгаць і спажыўныя матэрыі з глыбокіх, больш ¾ мэтра, пластоў глебы. Усе пажыўныя матэрыі ім патрэбны ў першыя часы ўзросту; у далейшым яны самі ўзбагачаюць глебу азотам, які адкладаецца на іх карэньнях ў асобных клубяньках маленькімі мікробамі. Такім чынам мешанкі з бабовых і злакавых найлепш скарыстоўваюць усю глебу.

Дзякуючы неаднолькавасьці разьвіцьця бабовых і злакавых траў, можна некалькі год атрымаць вялікія ўраджаі, таму што ў першыя два гады ідзе хуткае разьвіцьцё бабовых, потым яны амаль што зьнішчаюцца і тады пачынаецца поўнае разьвіцьцё злакавых.

Процант уваходзячых у мешанку злакавых і бабовых траў залежыць ад глебавых умоў, а гэта адбіваецца на тэрміне скарыстоўваньня мешанкі. Так, калі глеба супяшчаная, ці сугліністыя падзолы сухадольных сенажацяй, дзе ня ўвесь час росту маецца вільгаць і наогул малавата пажыўных матэрый, дык па іх можна сеяць кароткатэрміновыя мешанкі: бабовых $^2/_3$—$^3/_4$ часткі (66—75 проц.), і злакавых $^1/_3$—$^2/_4$ (25—33 проц.). Тэрмін карыстаньня гэтай мешанкай 2—3 гады. Колькасьць высеву 14,5—21,5 кілё на гэктар.

На глебах больш цяжкіх, чым першыя, але таксама з недахопам вільгаці і пажыўных матэрый, можна сеяць мешанку для карыстаньня 5—6 год. Яны называюцца для „перамешаных“ сенажацяй таму, што пасьля 5—6 год трэба рабіць перасеў, а з гэтым зьвязана апрацоўка глебы і пасеў збожжавых культур у працягу 2—3 год. Высяваецца на гэкт. да 29 кілё, з іх бабовых $^1/_4$—$^1/_3$ частка (25—33 проц.) і злакавых $^2/_3$—$^1/_4$ часткі (67—75 проц.).

Па лагчынах, альбо на абсушаных балотах, дзе глеба багата перагноем і ўвесь час даволі вільгаці—можна сеяць доўгатэрміновую мешанку бабовых $^1/_5$—$^1/_8$ частка і злакавых $^4/_5$—$^7/_8$; агульная колькасьць насеньня на гэктар да 43 кілё.

На тэрміне скарыстоўваньня адбіваецца характар уваходзячых злакавых траў. Злакавыя травы па характару іх каранёвай сыстэмы патрэбна адрозьніваць карнявішчавыя і рыхлакуставыя. Першыя патрабуюць заўсёды пульхных, багатых паветрам глебаў і жывуць каля

12 год. Рыхлакуставыя растуць і на бедных, уплотненых глебах, але тэрмін росту іх меншы, чым карнявішчавых, усяго да 8—9 год. Такім чынам, у залежнасьці ад тэрміну скарыстаньня мешанкі, гаспадар павінен складаць яе з той ці іншай колькасьці злакавых карнявішчавых і рыхлакустовых.

Па характару аблісьцьвеннасьці сярод злакавых разьлічаюць верхавыя і нізавыя. У першых амаль што ўсё сьцябло пакрываецца лісьцем, напрыклад, цімафейка, аўсяніца лугавыя і касьцёр, у другіх усё лісьце зьмяшчаецца каля кораня, каля глебы, а ўверх паднімаецца голае сьцябло, напрыклад, мятлік лугавы, аўсяніца чырвоная. З практычнага боку гэта карысна тым, што можна скласьці мешаніну для сенажаці з расьлін, травастой якога будзе густы і ўнізе і ўверсе, а для пашы даць большы процант нізавым злакам, якія добра адрастаюць і не баяцца вытаптваньня.

Наогул, найбольш поўна можна скарыстаць пераменную ці шматгадовую мешанку, калі ў ёй будзе:

| | | Пераменная | Шматгадовая |
|---|---|---|---|
| Бабовых | . . . . . . | 33 проц. | 17 проц. |
| Злакавых | верхавых . . . . . | 44 „ | 70 „ |
| | нізавых . . . . . | 23 „ | 13 „ |

Кароткатэрміновая мешанка цімафейкі з канюшынай, галоўным чынам, ужываецца ў палявым травасеяньні. Але па досьледах Балотнай станцыі ўжо ў першы год яна дае ўраджай на балоце ў сярэднім каля 36 цэнтнера на гэктар, у другі 64 і ў трэцьці 52 двайных цэнтн. *)

У чацьвёрты год ураджай вельмі зьнішчаецца і па досьледах яе лепш пераараць і гады 2 сеяць розныя с.-г. культуры, а потым зноў мешанку. Найлепшы ўраджай станцыя атрымала, калі ў склад мешанкі ўваходзілі 6 кілёгр. чырвонай, 6 кілёгр, швэцкай альбо розавай канюшыны і 10 кілё цімафейкі. Гэта мешанка патрабуе добрай асушкі балота таму, што ў ёй больш паловы канюшыны, якая мае глыбокую каранёвую сыстэму і баіцца блізка стаячае вады. Большы ўраджай быў там, дзе адлегласьць паміж канаў была менш 15 мэтраў.

Станцыя мае досьледы аб фінляндзкай мешанцы для пераменных сенажацяй на балотных глебах. У склад яе ўваходзяць 6 кілё цімафейкі, 6 кілё аўсяніцы лугавой, 6 кілё яжы зборнай, 4 кілё чырвонай і 4 швэцкай канюшыны. Вядома, што гэта колькасьць бярэцца, калі насеньне мае добры процант усхожасьці, у другім-жа разе трэба рабіць прыбаўку. Усхожасьць гэтых траў павінна быць такая: цімафейкі каля 90 проц., яжы зборнай—75 проц., аўсяніцы лугавой—85 проц., чырвонай—90 проц. і швэцкай канюшыны—75 проц.

Гэта мешанка лепш за першую па свайму складу. Большы процант злакавых дапамагае большаму тэрміну карыстаньня—5—6 год. У працягу амаль усяго тэрміну карыстаньня ўраджай мала зьнішчаецца і, як вядома па досьледах станцыі, яна можа даць 90 цэнтнераў сена на гэкт. (60 пуд. з дзес.). Але трэба адзначыць, што калі балота вясной заліваецца вадой на некалькі дзён, дык карысьць ад яе паніжаецца, бо ад гэтага гіне яжа зборная. Наогул, гэта мешанка вельмі добра ў гаспадарчых умовах Беларусі, бо акрамя доўгага тэрміну карыстаньня, увесь лік складаючых яе траў выносіць вытаптваньне скаціны і таму ў апошнія гады добра скарыстаць яе на пашу. У сучасны момант у ак-

*) Двайны цэнтнер каля 6,1 пуд.

ругах Магілеўскай, Аршанскай і Віцебскай ёсьць расаднікі насеньня лугавых траў, дзе іх можна ня дорага купіць.

Лепшы тэрмін пасева лугавых мешанак—вясна. Калі-ж лепей сеяць раньняй вясной ці позьняй? А гэта залежыць ад кліматычных умоў і глебы. Насеньне лугавых траў мае цьвёрдую абалонку і даволі дробнае і мае шкарлупу (абалонку) а таму і патрабуе для прарастаньня: 1) значнай вільгаці, цяплыні і 2) ня глыбокага захаваньня ў глебу. Таму раней вясной сеюць там, дзе глеба скора перасыхае, каб скарыстаць сьнегавую вільгаць, а позна там, дзе рана вясною бывае шмат вільгаці.

Можна сеяць мешанкі летам (чэрвень—жнівень), але летні пасеў прыходзіцца рабіць вельмі асьцярожна; ён будзе ўдалым там, дзе ў гэты час бываюць дажджы. Пазьніцца з пасевам нельга, бо ў першыя месяцы лугавыя травы растуць вельмі павольна, а да восені яна павінна ня толькі ўзыйсьці, але добра замацавацца, каб ня згінуць ад марозу.

Нельга высяваць усю мешанку разам, бо ў склад мешанкі ўваходзяць як дробненькае (цімафейка, канюшына) насеньне, так і буйнейшае (касьцёр бязвусы, аўсяніца лугавая і яжа зборная), таму трэба сеяць паасобку, перш буйнае насеньне, а потым усё дробнае. З пачатку высяваецца буйнае насеньне, якое потым забараноўваецца лёгкімі баронамі на глыбіню ня больш $1/4$—$1/2$ вяршка. Пасьля гэтага высяваецца дробнае насеньне, якое прыкатваецца толькі катком. Таксама мешанка толькі прыкатваецца катком, калі робіцца падсеў на баранаваным яру, альбо калі глебы даволі вільготныя.

З машын, якія больш прыстасованы да пасеву дробнага насеньня, для сялян можна раіць сеялку „Кроўна“.

Адрозьніваецца чысты пасеў лугавых мешанак і пад пакровам аднагадовай сельска-гаспадарчай расьліны. Такім чынам, перш сеюць пакроўную расьліну і забараноўваюць яе, а потым лугавую мешанку. Лепшай пакроўнай расьлінай лічаць авёс. Каштоўнасьць пакроўнае расьліны гэткая: 1) яна забараняе маленькія травы ад высыханьня, зьнішчае сарнякі, барацьба з якімі вельмі цяжкая і дае ў першы год прыбытак у гаспадарцы. Але побач з гэтым шмат адмоўных бакоў ў пакроўнай расьліне, таму карыстацца ёй трэба вельмі асьцярожна.

Нельга, каб пакроўная расьліна доўгі тэрмін была на полі. Лепшымі пакроўнымі расьлінамі трэба лічыць тыя, якія патрабуюць малога тэрміну росту, ці тыя, якія можна рана касіць на сене.

Нельга густа сеяць пакроўную расьліну—гэта зьнішчае мажлівасьць лепшага росту мешанкі. Амаль, што зусім нельга сеяць, як пакроўную расьліну выка-аўсяную мешанку.

**М. Баранава.**

# ДЗЯРЖАЎНАЯ ДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Да выданьня водна-мэліарацыйнага кодэксу БССР.

Саветам Народных Камісараў і Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР 8 сакавіка 1928 г. зацьверджаны водна-мэліарацыйны кодэкс.

Кодэкс вызначае правы і абавязкі вадакарыстацеляў, парадак узгадненьня іх стыкаючыхся іншы раз інтарэсаў і ўтварае ўмовы, які спрыяюць пашырэньню розных мэліарацый.

У васнову кодэксу паложаны прынцыпы: а) нацыяналізацыя вады, б) аб'яднаньне воднае гаспадаркі пад кіраўніцтвам Народнага Камісарыяту Земляробства і в) падпарадкаваньне прыватных інтарэсаў у галіне права на воды інтарэсам грамадзкім.

Нацыяналізацыя вады ў Беларускай ССР агалошана была зараз за яе ўтварэньнем у 1919 годзе, а іменна 2 артыкул Констытуцыі, зацьверджанай 4-га лютага 1919 году Першым Беларускім Зьездам Саветаў, які абвясьціў усе воды нацыянальнай маемасьцю. Затым Другі Ўсебеларускі Зьезд Саветаў у арт. 10 рэзалюцыі па аграрнаму пытаньню ад 17-га сьнежня 1920 году прызнаў, што ўсе воды ў Рэспубліцы знаходзяцца пад кіраўніцтвам Народнага Камісарыяту Земляробства.

Як дзяржаўная ўласнасьць, воды зьяўляюцца аб'ектам толькі карыстаньня. Апошняе па характару свайму і па прыродзе розных вадаёмаў можа быць: а) поўным, б) агульным і в) асаблівым.

У поўным карыстаньні паасобных гаспадарак і таварыстваў знаходзяцца невялікія, як штучныя, так і натуральныя вадаёмы, якія цалкам уваходзяць у склад данай гаспадаркі. Да ліку гэтых вадаёмаў адносяцца студні, сажалкі, крыніцы і інш. Трыманьне гэтых вадаёмаў у чыстаце і парадку ўскладаецца на адпаведныя гаспадаркі. Абмежаваньне прав поўнага карыстаньня дапускаецца толькі ў інтарэсах грамадзкіх і спэцыяльна прадугледжана кодэксам.

Усе астатнія вадаёмы—сажалкі, рэкі і вазёры—знаходзяцца ў агульным і бясплатным карыстаньні ўсяго насельніцтва. Каб можна было карыстацца гэтымі вадаёмамі, па берагох іх назначаюцца бечаўнікі рознай шырыні. На гэтых-жа вадаёмах з дазволу дзяржаўных органаў дапускаецца пабудаваньне плацін і запруд, падпор імі вады і выкарыстаньне сілы яе руху ў млынох, электрастанцыях, лесапільнях і іншых водадзейнічаючых пабудовах. Трыманьне ў спраўнасьці агульных вадаёмаў разьмяркоўваецца між ведамствамі, асобымі вадакарыстацелямі і насельніцтвам.

Агульныя вадаёмы, напрыклад вялікая рэчка, могуць адначасова служыць дзеля задавальненьня розных патрэб. Калі рэчка працякае па балотнай мясцовасьці, то яна зьяўляецца водапрыёмнікам для асушкі аколічных зямель. У той-жа час яна можа быць выкарыстана для патрэб судаходзтва, лесасплава, рыбалоўства і прамысловасьці шляхам утварэньня на ёй водадзейнічаючых пабудоў.

Інтарэсы сельскае гаспадаркі, транспарту і прамысловасьці могуць сустракацца. Для пабудовы, напрыклад, на рэчцы электрастанцыі трэба было б падперці воду плацінай. Між тым павышэньне роўня вады ў рэчцы ня дасьць магчымасьці асушыць мясцовыя балоты. Трэба, каб нейкі орган вырашаў, якія з гэтых мерапрыемстваў маюць большае значэньне для ўсей народнай гаспадаркі.

Па кодэксу ўзгадненьне інтарэсаў розных ведамстваў ускладзена на водна-мэліарацыйныя камітэты. Яны разглядаюць праэкты работ дзяржаўнага значэньня ў галіне воднае гаспадаркі і мэліарацыі.

Сельска-гаспадарчай мэліарацыі вод і зямель кодэкс аддае шмат увагі. Тлумачыцца гэта тым аграмадным значэньнем, якое мае ў БССР асушка балот. Налічваецца іх тут каля 1 650.000 гэктараў, г. зн. каля 16 проц. усей плошчы. Перапрацоўка балот на культурныя ўжыткі дасьць магчымасьць дадаткова надзяліць сялян зямлёю і надта падніме вытворчасьць сельскае гаспадаркі.

Кодэкс дае магчымасьць праводзіць канавы праз землі асоб, якія ня згодны на мэліарацыю, і ўскладае на іх абавязак нясьці выдаткі прапарцыянальна асушаемай для іх плошчы.

Нявыгадныя землі могуць быць адабраны ад працоўных землякарыстальнікаў, якія адмаўляюцца ад мэліарацыі. Адабраныя землі залічваюцца ў запасны фонд і даюцца другім земляробам пад умовай распрацоўкі нявыгадных зямель пад культурныя ўжыткі.

Мэліараваныя землі пры земляўпарадкаваньні пакідаюцца папярэдняй гаспадарцы. Калі-ж адабраньне іх выклікаецца дзяржаўнымі альбо грамадзянскімі патрэбамі, дык землякарыстальніку, апроч адводу зямлі ў другім месцы, сплачваюцца яго страты і выдаткі на мэліарацыю.

Распрацоўка торпу нікім ня можа рабіцца без належнага дазволу зямельных органаў і без захаваньня тэхнічных правілаў, якія выдаюцца Народным Камісарыятам Земляробства. Тарпяныя нетры плошчай ня больш 100 гэктараў, якія знаходзяцца на сялянскіх землях і ў лясох мясцовага значэньня, могуць бясплатна распрацоўвацца насельніцтвам-для яго гаспадарчых патрэб. Пры распрацоўцы торпу на продаж бярэцца арэнда.

Кодэкс вызначае рух мэліарацыйных спраў і папаўняе такім чынам існуючы цяпер у гэтай галіне недахоп. Прадугледжаны кодэксам наступныя стадыі працэсу: а) праверка хадайніцтва аб мэліарацыі, в) ізысканьні, г) складаньне мэліарацыйнага праэкту, д) зацьверджаньне праэкту, е) прад'яўленьне яго зацікаўленым асобам і ж) яго выкананьне.

Усякі мэліарацыйны праэкт разглядаецца акруговым водна-мэліарацыйным камітэтам, які канчаткова зацьвярджае праэкты на суму ня звыш 50.000 руб. Іншыя праэкты прадстаўляюцца на зацьвярджэньне ў Народны Камісарыят Земляробства. Зацьвярджаюцца праэкты толькі з тэхнічнага боку. Потым мэліаратар прад'яўляе праэкт зацікаўленаму насельніцтву і пры адсутнасьці спрэчак накіроўвае яго да выкананьня' Калі-ж на прад'яўлены праэкт паступяць у двухтыднёвы тэрмін скаргі. уся справа перадаецца на разгляд зямельнай камісіі.

Выдаткі на мэліарацыі і ўтрыманьне ў спраўнасьці мэліарацыйных будынін разьмяркоўваюцца паміж дзяржавай і насельніцтвам.

Каб утварыць належныя ўмовы, якія спрыяюць мэліарацыям, палягчаецца парадак арганізацыі мэліарацыйных таварыстваў і атрыманьня крэдыту. У прыватнасьці меншасьць землякарыстальнікаў незалежна ад плошчы іх зямлі прымусова ўключаюцца ў таварыства, якое складаецца большасьцю землякарыстальнікаў падлягаючага мэліарацыі вучастку.

Кодэкс мае 225 артыкулаў і зьяўляецца першым агульным водна-мэліарацыйным законам, неабходнасьць выданьня якога прызнана была яшчэ ў 1918 г. артыкулам 5 асноўнага закону аб сацыялізацыі зямлі. Складаньне водна-мэліарацыйнага кодэксу было тым больш марудным, што яго няма яшчэ ні ў РСФСР ні на Украіне.

**Аўг. Вішнеўскі.**

---

# Як ставіць досьледы ў гародзе.

(Кароткая інструкцыя).

Пры пастаноўцы досьледаў у гародзе належыць выбіраць роўны, аднолькавы і з пад аднае расьліны вучастак. Нельга браць пад досьлед такіх вучасткаў, на якіх раней ляжалі гнаёвыя кучы, праходзілі дарогі, альбо межы. Калі на гародзе праходзіла мэліорацыя, дык пад досьлед можна браць толькі аднолькава асушаны вучастак. Вучастак павінен быць ня блізка ад саду, лесу і г. д.

*Апрацоўка глебы* павінна быць аднолькавая для ўсяго вучастку.

*Угнаеньні* ўносяцца ў той самы тэрмін, як і ў палявых досьледах, але чылійскую салетру ўносяць звычайна пры паліўках у два ці тры разы, зважаючы, як расьліна пойдзе ў рост. Так, напрыклад, пад капусту салетру трэба ўносіць перад пасадкай, другую порцыю праз тры тыдні і трэцюю порцыю—яшчэ праз тры тыдні. Пры паліўцы на вядро бяруць 6 залатнікоў салетры. Часамі-ж пад капусту салетру ўносяць пад кожную расьліну па $^1/_2$ залатніка і зьлёгка прысыпаюць зямлёй.

*Велічыня і форма дзялянак. Паўторнасьць.* Для досьледаў з угнаеньнямі можна браць дзялянкі з невялікай плошчай, так, напрыклад, пад капусту хопіць дзялянкі 5×15 аршын.

Пры сортаспрабаваньні гуркоў, паміж паасобнымі сартамі трэба высадзіць два ці тры рады кармовых буракоў альбо морквы, дзеля таго, каб не пераблытаць гранак паасобных сартоў. Сортаспрабаваньне памідораў робіцца так: кожны сорт па шнуру высаджваецца на гладкай паверхні ў адзін рад па 20 штук. У наступным радзе высаджваецца другі сорт і г. д.

Пры сортаспрабаваньні караньплодаў для кожнага сорту бярэцца па тры баразьне. Адлеглась паміж грабянямі барознаў адзін аршын. Даўжыня баразны залежыць ад караньплода; але баразну трэба рабіць такой, каб на ёй пасадзіць 60 расьлін, з такім разьлікам, каб на кожнай градзе было 3—4 рады расьлін. Паўторнасьць іх у кожным выпадку не павінна быць меншай за тры. На малюнку № 1; тры сарты капусты пры трохразовым паўтарэньні.

На 2-м малюнку—тыя-ж тры сарты капусты, але дзялянкі разьмешчаны ў два рады. Прычым дзялянкі с паасобнымі сартамі трэба разьмяшчаць так, каб яны не саўпадалі.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пышкін-скі | Коопэ-рац. | Сабу-раўка | Пышкін-скі | Коопэ-рац | Сабу-раўка | Пышкін-скі | Коопэ-рац. | Сабу-раўка |

Мал. 1.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| Пышкін-скі | Коопэ-рац. | Сабу-раўка | Пышкін-скі | Коопэ-рац. | Сабу-раўка |

Мал. 2.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|
| Сабу-раўка | Пышкін-скі | Коопэ-рац. | Сабу-раўка | Пышкін-скі | Коопэ-рац. |

**Пасеў і пасадка**. Раньнія капусты высяваюцца ў плошкі альбо ў цёплы парнік. Калі расьліны пачынаюць распускаць першы сапраўдны ліст, іх пікіруюць на адлегласьці аднаго раду ад другога на 1 вяршок, а ў радох адна расьліна ад другой на $1^1/_2$ вяршкі. Позьнія сарты высяваюцца ў расаднік. У грунт расада садзіцца тады, калі вылупляцца 5—6 сапраўдных лістоў. Раньнія сарты высаджваюцца на адлегласьці $^3/_4 \times ^3/_4$ арш. Сярэднія сарты—$^3/_4 \times 1$ арш., позьнія—$1 \times 1$ арш., альбо—$1^1/_4 \times 1^1/_4$ арш. Караньплоды высяваюцца ў грунт. Насеньне буракоў і морквы трэба мачыць 1 суткі. На працягу сутак трэба пераменьваць воду разы два-тры. Каб з'эканоміць насеньне, можна садзіць у гнёзды. Для сталовых буракоў гнёзда робяцца на 5—6 вярш., для морквы на 2—3 вяршкі. Удоўж градкі нацягваецца шнур і па шнуру на пэўнай адлегласьці робяцца гнёзда, якія павінны быць аднолькавай глыбіні, для буракоў $^3/_4$—1 вяршка, для морквы і бручкі $^1/_2$—$^1/_4$ вяршка. У кожнае гняздо саджаюць па 5 зярнят. Як насеньне ўзыдзе і распусьцяцца два сапраўдных лісты—больш слабыя расьліны вырываюцца. У той момант, як корань пачне таўсьцець, з застаўшыхся расьлін выбіраюць самы моцны экзэмпляр,—а рэшту выкідаюць. Пры радавым пасеве—па шнуры праводзяць баразну на аднэй глыбіні, робяць пасеў і асьцярожна засыпаюць насеньне.

**Догляд**. Догляд за расьлінамі звычайны: полка, прарыўка, асыпка матыкай і асыпнікам. Адзін і той самы прыём (спосаб догляду) на ўсіх дзялянках павінен рабіцца ў адзін дзень.

**Нагляданьні**. Пры запісі нагляданьняў трэба вызначаць: дзень пасеву, дзень зьяўленьня першых усходаў,—зьяўленьня першага сапраўднага ліста,—патаўшчэньня караньплодаў, а ў капусты дзень завіўкі качана, а таксама абазначаюцца дні полкі, прарыва, асыпкі і прыборкі ўраджаю. Форма запісаў дана ніжэй.

**Прыборка і вучот**. Прыборку трэба рабіць у адзін дзень і, у той самы тэрмін, калі заўсёды прыбіраюць у даным раёне. Пры сортаспрабаваньні на кожнай дзялянцы вучытваецца толькі сярэдняя баразна; на градах вучытваецца адзін альбо два сярэдніх рады, гледзячы на тое, колькі іх было на градзе. Крайнія рады служаць для абароны і ня вучытваюцца. Капусты для вучота бярэцца па 20 экзэмпляраў з сярэдніх радоў. Крайнія рады, а таксама па два вучытваемых экзэмпля-

ры з сярэдніх радоў лічацца абароннымі. Для вучота, капуста з паверхні грэбеня зрэзваецца, качарыга і качаны ўзважваюцца; пасьля лісты ачышчаюцца, качарыга зрэзваецца каля канца качана, ды ізноў качаны ўзважваюцца. Кожная паўторнасьць ўзважваецца паасобна і запісваецца ў ведамасьць, форма якой прыложана ніжэй. Пры вучоце караньплодаў з кожнага сярэдняга раду альбо двух, у залежнасьці ад іх ліку, бяруць па 50 штук. Крайнія рады і па 5 качанаў з кожнага сярэдняга раду—лічацца абароннымі і ня вучытваюцца. Расьліны абавязкова ачышчаюцца ад зямлі, спачатку ўзважваюцца з бацьвіньнем, пасьля бацьвіньне абрэзваецца ды зноў узважваюцца. Як першая вага так і другая па кожнай дзялянцы запісваецца паасобна.

Пры сортаспрабаваньні гуркоў, вучот робіцца паступова, як гуркі пасьпяваюць і дарастуць да сваёй нармальнай велічыні. Увесь збор з кожнай дзялянкі ўзважваецца паасобна і пералічваецца колькі штук. Вылічваецца таксама колькі гуркоў вельмі буйных і колькі недарослых. Памідоры бяруцца на вучот таксама, у залежнасьці ад іх пасьпяваньня, паступова. Кожная дзялянка ўзважваецца, пералічваецца колькі ўсіх памідораў і памячаецца колькі хворых. Перад падыходам марозаў недасьпелыя памідоры здымаюцца,—і кожнага сорта адлічваецца па 100 штук і кладуцца ў цёплае сухое мейсца на дасьпяваньне. Пасьля па кожнаму сорту падлічваецца колькі памідораў дазрэла і колькі загінула.

### Ведамасьці для запісі наглядальняў.

| №№ дзялянак | НАЗВА САРТОЎ | ЧАС | | | | | | Калі і які догляд быў за расьлінамі | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пасеву | Зьяўлення ўсходаў | Зьяўл. 1-га ліста | Перасадкі ў грунт | Патаўшчэньня | Завіўкі качана | | |
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | | |
| 1 | Пышкінск. . . | 28/4 | 10/V | 22/V | 30/V | | 21/VII | Паказаць, калі асыпаліся, палоліся | Якія былі хваробы, шкоднікі, дрэнныя ўплывы пагоды і г. д. |
| 2 | Коопэрат. . . | 28/4 | 12/V | 20/V | 30/V | | 24/VII | | |
| 3 | Сабурава . . | 28/4 | 9/V | 20/V | 30/V | | 20/VII | | |
| 4 | Пышкінскі . . | | | | | | | | |

| №№ дзялянак | НАЗВА САРТОЎ | Час прыборкі | Лік сабраных расьлін | Лік загінуўшых расьлін | Ураджай з дзялянкі | | УВАГА |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | З ботвай | Бяз ботвы | |
| 1 | | | | | | | Паказаць плотнасьць глебы: глеба плотная сярэдняя, мяккая<br>Велічыня караньплодаў—буйныя, сярэднія, дробныя |
| 2 | | | | | | | |
| 3 | | | | | | | |
| 4 | | | | | | | |

(Віцебская дасьледчая станцыя) **В. Н. Чэмелаў.**

---

**Выданьне Наркамзему.** Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Саф. Хоміч, Сьц. Тупяневіч.*

ЦАНА 20 КАП.

## Выданьні Наркамзему.

1. **Атабекянц.** Шляхі бэконізацыі сьвінаводзтва БССР. 1927 г. 32 стар. ц. — 15 к.
2. **Праф. Ліскун.** Агульная жывёлагадоўля. 1926 г. 140 стар. . . ц. — 70 к.
3. **Проф. И. Кулагин.** Красный Белорусский скот. 1923 г. 18 стар. . ц. — 5 к.
4. **Праф. А. Чалінцаў.** Аб рахунковым аналізе сельскае гаспадаркі. 1924 г. 68 стар. . . . . . . . . . . ц. — 40 к.
5. **Праф. Штэйнберг.** Практычнае гародніцтва. 1924 г. 136 стар. . ц. — 60 к.
6. **Я. Пачопка.** Як узгадаваць і даглядаць сад. 1923 г. 72 стар. . . ц. — 20 к.
7. **Л. Калікінскі.** Лубін і яго культура. 1924 г. 40 стар. . . . ц. — 20 к.
8. **С. Н. Тупяневіч.** Спосабы барацьбы з кілою капусных расьлін. 1927 г. 32 стар. . . . . . . . . . . ц. — 25 к.
9. **С. Тупяневіч і Заяц.** За лепшую сельскую гаспадарку. 1926 г. 78 ст. ц. — 25 к.
10. **М. Лайкоў.** Аб складаньні пераходных табліц на шматпольле. 1926 г. 20 стар. . . . . . . . . . . ц. — 25 к.
11. **С. Тупяневіч і А. Дзямідовіч.** Вывучэньне тэхнікі сялянскага ральніцтва. 1926 г. 28 стар. . . . . . . . ц. — 25 к.
12. **А. Михайлов.** Очерк развития агрономической помощи в БССР. 1923 г. 28 стар. . . . . . . . . ц. — 10 к.
13. **П. Бойко.** Что должен знать переселенец о Д. Востоке и Сибири. 1927 г. ц. — 25 к.
14. **З. Скоморохов.** Что должен знать крестьянин о лесе. 1925 г. 70 ст. ц. — 25 к.
15. **И. Седашев.** Лесное хозяйство. 1923 г. 15 стр. . . . . ц. — 5 к.
16. **С. Ждановіч і Ярашчук.** Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі 1926 г. 140 стр. . . . . . . . . . ц. — 70 к.
17. **Б. Бабицкий.** Производственные минимумы в крестьянском хозяйстве БССР. 1927 г. 54 стар. . . . . . . . . . ц — 25 к.
18. Сельское хозяйство БССР и мероприятия по его восстановлению. 1925 г. 80 стр. . . . . . . . . . ц. — 25 к.
19. **Л. Ивицкий.** Перечень действующего земельного законодательства БССР. 1927 г. 26 стр. . . . . . . . . ц. — 15 к.
20. Земельный кодекс БССР с узаконениями, правилами и инструкциями. 1927 г. 354 стр. . . . . . . . . . ц. 2 р. 60 к.
21. **Проф. Пичета.** История сельского хозяйства и землевладения в Белоруссии до конца XVI века. 1928 г. 180 стр. . . . . ц. 1 р. 80 к.
22. **Перспективный план НКЗ** на 1925—30 г. в выпусках. 1927 г. 960 стр. ц. 3 р. 55 к.
23. **А. Д. Дубах.** 1) Изменения профиля осушительных канав с течением времени. 2) Урожай трав на канализованном болоте. 3) Нарастание мха и торфа на болоте. 4) М. Л. Лейвиков. Рост сосны на канализованном болоте. 1926 г. 86 стр. . . . . . . ц. — 65 к.
24. **К. К. Киселев.** Водный режим реки Орессы. 1926 г. 40 стр. . . ц. — 40 к.
25. **В. Г. Касаткин.** Почвенная характеристика заболоченных пространств Белорусского Полесья. 1926 г. 48 стр. . . . . . ц. — 30 к.
26. **В. В. Адамов.** и **И. К. Ярошевич.** Обзор растительности Белорусского Полесья. 1927 г. 96 стр. . . . . . . . . ц. — 50 к.
27. **Н. С. Фролов.** Вопросы экономики мелиораций. 1926 г. 160 стр. . ц. — 80 к.
28. **А. Д. Дубах.** Пути к уточнению проектирования осушительных работ. 1927 г. 52 стр. . . . . . . . . . ц. — 30 к.
29. **Н. М. Савич.** Результаты гео-ботанических исследований в быв. Рогачевском уезде. 1926 г. 140 стр. . . . . . . ц. — 80 к.
30. **В. Г. Петровский.** Мелиоративные товарищества Белоруссии. 1926 г. 150 стр. . . . . . . . . . . . ц. — 55 к.
31. **Т. Анціпенка.** Прыборка, захаваньне і перавозка бульбы. 1927 г. 30 стар. . . . . . . . . . . ц. — 12 к.
32. **С. М. Тупяневіч.** Сялянскі с.-г. досьледна БССР. 1927 г. 32 стар. . ц. — 15 к.
33. **Аб лесе і торфе.** 1928 г. 20 стар. . . . . . . ц. — 12 к.
34. **Ч. А. Бялюнас.** Жыцьцё і гадоўля лесу. 1928 г. 48 стар. . . ц. — 50 к.
35. **С. І. Журык.** Халоднае сіласаваньне. 1928 г. 24 стар. . . ц. — 15 к.

**Заказы накіроўваць:** *Менск, Савецкая, 71, Выдавецтва Н. К. З.*